—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
9
КАСТРЫЧНІКА
1992 г.
№ 41 (3659)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)






**Гэты твор — мемарыяльную дошку ў гонар Францішка Скарыны — у хуткім часе пабачаць італьянцы. Яна будзе ўстаноўлена ў Падуі.**
(Пра выставу «Жыве Беларусь» чытайце ў наступным нумары).

**З ПОШТЫ ТЫДНЯ**

# Дастойна, на дзяржаўным узроўні

**Днямі ў рэдакцыю прыйшоў ліст з Масквы ад сяброў Таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны з копіяй звароту да Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча. Праблемы, якія ўздымаюцца ў ім, надзвычай надзённыя і тычацца не толькі «ЛіМа», але і ўсяго беларускамоўнага друку. Таму мы і вырашылі надрукаваць яго.**

Шаноўны Станіслаў Станіслававіч!

Чацвёрты год існуе ў Маскве Таварыства беларускай культуры і ўвесь гэты час змагаецца за пашырэнне кола чытачоў беларускамоўнага друку, бо гэта ёсць адной са статутных мэтаў таварыства. Таму зразумела, якой непрыемнай неспадзяванкай сталася для нас сумная навіна пра немагчымасць падпіскі на галоўныя для нас выданні: «ЛіМ», «Наша слова», «Спадчына» і іншыя з гэтага шэрагу.

У звязку з тым па нашай просьбе Камісія па адукацыі, культуры і ахове гістарычнай спадчыны звярнулася да Міністэрства інфармацыі РБ з просьбай уладкаваць падпіску на беларускамоўны друк па-за межамі Беларусі. Адказ першага намесніка міністра С. А. Нічыпаровіча цытуем:

«Як і раней, беларускія выданні прадстаўлены ў цэнтральным расійскім каталозе, асобнікі якога ёсць на падпісных пунктах і ў паштовых аддзяленнях. Усе навацыі зводзяцца да таго, што зараз падпіску прымаюць не больш чым на 6 месяцаў».

**Па-першае, гэта няпраўда. Калі б паважаны намеснік міністра пазірнуў бы ў каталог перад тым, як падпісаць ліст, ён мог бы пераканацца, што чыста беларускамоўныя выданні зніклі з каталога (апроч «Звязды», «Вожыка» і «Беларусі»). Гэта ўсё ж навацыя і нямалаважная.**

**Па-другое. Тыя беларускія (па месцы выдання, а не па мове і зместу) выданні, што трапілі ў каталог, адлюстроўваюць пераважна камуністычныя ці стараімперскія погляды. Такім чынам, можна меркаваць, што Міністэрства інфармацыі выступае ў якасці прамога нашчадка былога ідэалагічнага аддзела былога ЦК КПБ, хаця яно павінна знаёміць замежжа са ўсім спектрам жыцця і мыслі рэспублікі, а не прапагандаваць любыя яму палітычныя пазіцыі.**

**Па-трэцяе. Такі адказ варты не дзяржаўнага дзеяча, заклапочанага лёсам суайчыннікаў за мяжой і паўнейшым выкарыстаннем іх патэнцыялу, але хутчэй уласцівы дробнаму бюракрату самага тандэтнага ўзроўню, бо не закранае сутнасці праблемы, а выконвае адну мэту: «закрыть вопрос».**

Пытаннем падпіскі заклапочаны цяпер не толькі «маскоўскія» беларусы дый увогуле не толькі беларусы. Гэта пытанне тычыцца шырокага кола людзей у краінах СНД і вырашаць яго трэба дастойна, на дзяржаўным узроўні. Таму мы ўзялі смеласць звярнуцца да Вас з просьбай спрыяць рашэнню гэтай праблемы беларускім урадам у магчыма карацейшы тэрмін.

Просім прабачэння за клопат.

З нязменнай павагай,
ад імя сходу актыву таварыства

старшыня рады таварыства

**А. ДРАЯНКОЎ.**

ЧАСОПІСЫ Ў 1993 ГОДЗЕ

# З верою ў Адраджэнне

**На пытанні нашага карэспандэнта адказвае галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей ЗАКОННІКАЎ**

**— Сяргей Іванавіч, калі ласка, пра асноўныя публікацыі будучага года...**

— Як і заўсёды, «Полымя» будзе знаёміць чытачоў з лепшымі набыткамі сучаснае айчыннае літаратуры. Гэта новыя аповесці і раманы Васіля Быкава, Янкі Брыля, Віктара Казько, Анатоля Кудраўца, Віктара Карамазава. Свае паэтычныя творы часопісу прапануюць Максім Танк, Пімен Панчанка, Сяргей Грахоўскі, Алесь Звонак, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Пятрусь Макаль, Данута Бічэль - Загнетава, Раіса Баравікова і многія маладзейшыя паэты. У палымянскай прозе і паэзіі выразна бачыцца ўдумлівае, глыбокае асэнсаванне гісторыі Бацькаўшчыны і народа, рэалій сённяшняга, надзвычай супярэчлівага, складанага і непрадказальнага ў сваім развіцці жыцця. Аднак, нягледзячы на цяперашні эканамічны, сацыяльны і духоўны рэзрух, старонкі твораў поўняцца вераю ў сапраўднае адраджэнне нашае незалежнае і суверэннае дзяржавы — Рэспублікі Беларусь.

**— «Полымя» — гэта заўсёды спалучэнне сучаснага літаратурнага працэсу з адначасным позіркам у дзень учарашні. Наколькі ў гэтых адносінах будзе задаволена цікаўнасць чытачоў?**

— Хачу зазначыць, што «Полымя» за апошнія гады зрабіла многае, каб далучыць нашых чытачоў да багатай духоўнай спадчыны беларускага народа. Пра тое, якую ўвагу мы надаём гэтай надзвычай важнай справе, сведчыць стварэнне ў рэдакцыі часопіса новага аддзела — гісторыі літаратуры і культуры. Ён рыхтуе да друку «Хроніку Быхаўца», нататкі Уладзіміра Арлова пра Полаччыну ад XVI стагоддзя і да нашых дзён. Шырока будзе прадстаўлена рубрыка «З літаратурнай спадчыны». Назаву толькі адно імя — Максім Гарэцкі. Невядомыя творы гэтага выдатнага пісьменніка, 100-годдзе з дня нараджэння якога адзначаецца ў 1993 годзе, «Скарбы жыцця», «Лявоніус Задумекус», «Кіпарысы», «Ашуканы палітрэдактар» з каментарыямі яго дачкі Галіны Максімаўны Гарэцкай змесцім у другім нумары «Полымя». Падпісчыкі і тыя, хто набудзе гэты нумар, змогуць прачытаць сапраўды таленавітую прозу, створаную рукою Майстра, насалодзяцца ягонаю непаўторнаю, жывою, сакавітаю мовую.

Спадзяёмся, што чытачы зацікавяцца дзённікамі вядомай дзяячкі нашае культуры Паўліны Мядзёлкі, а таксама пісьменнікаў Івана Шамякіна і Вячаслава Адамчыка.

У раздзеле крытыкі і літаратуразнаўства мяркуем не толькі аналізаваць сучасны літаратурны працэс, але і змяшчаць публікацыі, прысвечаныя праблемам адраджэння роднае мовы і культуры, матэрыялы ў дапамогу настаўнікам школ, гімназій і ліцэяў, выкладчыкам і студэнтам ВНУ. Гэта артыкулы Віктара Каваленкі — пра сучасную беларускую прозу, Уладзіміра Калесніка — аб беларускай літаратуры пра Вялікую Айчынную вайну, Уладзіміра Конана — «Кроў людская — не вадзіца» (філасофія, дзяржава, гістарычны працэс, літаратура), Ірыны Багдановіч — «На суровых крыжавых дарогах» (серыя публікацый пра трагічны лёс беларускіх пісьменнікаў у гады сталінскага тэрору), Алеся Яскевіча — «Хрысціянская мараль і працэсы развіцця беларускай літаратуры», Лідзіі Савік — пра літаратуру беларускага замежжа.

**— Паколькі часопіс не толькі літаратурна - мастацкі, а і грамадска - палітычны, відаць, і ў далейшым мяркуецца друкаваць самыя розныя матэрыялы?**

— «Полымя» заўсёды выходзіць на самыя балючыя праблемы нашага жыцця. Не выключэнне і наступны год. Апублікуем даследаванне «Дзяржаўнасць Беларусі і мова народа», цыкл матэрыялаў «Эканоміка Беларусі сёння і заўтра». Змесцім серыю публікацый пра экалагічную сітуацыю ў рэспубліцы, адна з якіх называецца так: «Ці ўратуе лес ад радыяцыі?» Усе матэрыялы такога накірунку пералічыць цяжка.

У заключэнне хачу сказаць, што той, хто выпіша часопіс на наступны год, не памыліцца ў сваім выбары. Хоць ведаю, што падпісацца на «Полымя», як гэта было і ў мінулым годзе, няпроста. Зноў па віне зрусіфікаваных чыноўнікаў высокага і ніжэйшага рангу, якія не зацікаўлены ў падтрымцы беларускамоўных выданняў і займаюцца ўвесь час сабатажам, часопіс не трапіў у каталог для дзяржаў СНД, згубілі мы і сотні падпісчыкаў у далёкім замежжы. Нават тут — у сваёй рэспубліцы — ставяцца перашкоды: у каталогах, якія дасылаліся аддзяленням сувязі, не была пастаўлена цана падпіскі. Пасля настойлівых патрабаванняў рэдакцыі ва ўсе аддзяленні сувязі пайшла дэпеша з папраўкаю. А таму, шаноўныя сябры, патрабуйце, каб паштовыя работнікі без усялякай цяганіны афармлялі падпіску на «Полымя». Цана яе на паўгоддзе — 60 рублёў. Такую суму можа вытрымаць любы сямейны бюджэт.

**Інтэрв'ю браў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# ПАРАДОКС ПАД ЗНАКАМ АПТЫМІЗМУ

## Агляд чытацкай пошты

Як жа лёгка зразумець іншым часам, што такое парадокс! Вось, для прыкладу, пошта «ЛіМа». Сотні лістоў, сотні людзей — як вынік, сотні пытанняў, спадзяванняў, падстаў для хваляванняў. Кожны ліст — новы свет, новыя тэмы і новыя жыццёвыя сітуацыі. І адначасова наша пошта — адзіны, так бы мовіць, калектыўны твор нашых чытачоў, аб'яднаны адной ідэяй, адной тэмай, адным сюжэтам. Пра што б ні пісалі нашыя карэспандэнты — яны пішуць пра Беларусь, пра яе турботы і боль, пра яе хваробы і недарэчнасці.

Папраўдзе, парадокс лімаўскай пошты — самы натуральны з парадоксаў. Бо ці знойдзеш яшчэ дзе-небудзь настолькі парадаксальную дзяржаву — беларускую па назве і небеларускую па духу, суверэнную згодна з дэкларацыяй і паслухмяную суседзям у сваёй палітыцы, з дзяржаўнай мовай, якую не паважае дзяржаўны чыноўнік?..

Ёсць такі анекдот.

Ехаў аднойчы на «Пентыяку» амерыканец. Не справіўся з кіраваннем, ды на павароце — бац! — у сасну. Сядзіць, бедалага, плача. Збегліся людзі:

— Чаго плачаш?

— Як жа мне не плакаць? Два месяцы на машыну збіраў — і на табе!..

Паспачувалі яму людзі.

Ехаў аднойчы на «Вольве» швед. Не справіўся з кіраваннем, ды на павароце — бац! — у сасну. Сядзіць, небарака, плача. Збегліся людзі:

— Чаго плачаш?

— Як жа мне не плакаць? Амаль год на машыну збіраў — і на табе!..

Шчыра паспачувалі яму людзі.

Ехаў аднойчы на «Запарожцы» саветыкус. Не справіўся з кіраваннем, ды на павароце — бац! — у сасну. Сядзіць, нябога, горкімі слязамі залівоецца. Збегліся людзі:

— Чаго плачаш?

— Як жа не плакаць? Усё жыццё на машыну збіраў — і на табе!..

— А навошта ты яе, такую дарагую, купляў?!

Ёсць у гэтым анекдоце горкая праўда — занадта цяжка нам усё даецца, каб потым штонебудзь страчваць. Занадта доўга мы ішлі да вяртання сваёй незалежнасці, сваёй дзяржаўнасці, занадта вялікай кроўю яна нам далася, занадта доўга жылі мы жаданнем «людзьмі звацца», каб сёння спакойна і з пакорлівасцю ўспрымаць тыя абразы, якія даводзіцца цярпець Беларусі і яе народу. І менавіта пра лёс нашай краіны і распавядае большая частка лімаўскай пошты.

Не могуць, для прыкладу, нашыя суайчыннікі за блізкімі і далёкімі межамі зразумець, з якой нагоды суверэнная рэспубліка пазбавіла іх магчымасці чытаць свой друк на роднай мове. Толькі «Звяздзе» з ласкі чыноўнікаў дазволена несці беларускае слова ў Маскву і Данецк, Сыктыўкар і Санкт-Пецярбург.

«ЛіМ» для мяне — адзіная сувязь з Радзімай, з роднай мовай. Але падпісацца на яго немагчыма, — скардзіцца навуковы супрацоўнік з Санкт-Пецярбурга Уладзімір **Кернажыцкі**. І пытаецца: — Як не страціць гэты адзіны сродак сувязі?»

«Як жа падпісацца на вас, калі ў каталозе гэтае выданне не значыцца?» (Мірон **Радзівонаў**, г. Сыктыўкар).

«На жаль, у каталозе выданняў, на якія можна падпісацца ў Расійскай Федэрацыі, «Літаратуры і мастацтва» я не знайшоў. Паспрабую падпісацца праз Беларускае таварыства, а як быць тым беларусам, якія жывуць у іншых гарадах Расіі?» (**Ф. Іванцоў**, г. Масква).

«Не ведаю, колькі беларусаў жыве на Украіне, але добра памятаю, што згодна з апошнім перапісам у Данбасе больш за 80 тысяч маіх землякоў, беларусаў. Гэта не так і мала. Але выпісаць на наступны год «ЛіМ» не зможа ніхто — у каталозе беларускамоўных газет (акрамя «Звязды») не аказалася», — радкі з ліста нашага чытача з Данецка Фёдара **Севярына**.

Такія допісы прыходзяць у рэдакцыю ці не штодзённа, а шмат хто з нашых чытачоў не лянуецца набраць па міжгародняй і нумар нашага тэлефона. Пытанне адно: як падобнае магло здарыцца? Што ж, мы пераадрасоўваем яго складальнікам каталогу беларускага друку. Няўжо і праўда на Беларусі так блага з друкам, што, акрамя «Мы и время» ды «Славянских ведомостей», нашым землякам за мяжой і прапанаваць няма чаго? Можа, досыць, урэшце, гуляць у звышінтэрнацыяналістаў?

Каб крыху заспакоіць нашых замежных землякоў, паведамім, што не ўсё выдатна з беларускім друкам і на самой Беларусі. Мноства пісьмаў дасылаюць у рэдакцыю нашы чытачы. Здзіўляе іх мода на двухмоўныя газеты і часопісы, абурае стаўленне да працэсаў беларусізацыі і самой сутнасці беларушчыны органаў афіцыйнай улады.

«Двухмоўя ў газетах быць не павінна, — піша чытач з г. Камянца **І. Жытко**. — А сёння многія газеты толькі і шукаюць шчыліны ў законах, абы не карыстацца беларускай мовай».

«У кожнай газеце можна спаткаць прапановы, як **прадоўжыць** тэрмін пачатку ўжывання беларускай мовы», — сцвярджае мінчук Анатоль **Шыла**.

Аб праблемах беларускай інфармацыйнай прасторы піша настаўнік з Мінска Кастусь **Карнялюк**.

І сапраўды, насцярожвае апошнім часам кампанія за наданне рускай мове статуса дзяржаўнай, якая ці не ў адкрытую вядзецца некаторымі сродкамі масавай інфармацыі. Ды і не дзіва. Праз дзесяць месяцаў некаторыя артыкулы Закона аб мовах павінны запрацаваць. Так, з 1 верасня 1993 года валоданне беларускай мовай стане абавязковай для адказных асоб дзяржаўных, партыйных і грамадскіх органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый (артыкул 4), беларускай стане мова актаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання (артыкул 7). Павінен пачаць дзейнічаць і артыкул 29, згодна з якім «мовай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі з'яўляецца беларуская мова».

А сёння вуліцы Мінска ўпрыгожваюць лозунгі: «Звязда» — адзіная беларускамоўная штодзённая газета». Дзякуй Богу, што хоць юбіляр наш не здрадзіў яшчэ роднай мове. Але, акрамя «Звязды», у таго ж Саўміна ёсць «Советская Белоруссия», «Белорусская нива», «Знамя юности», «Республика» (хоць і мае назву «Рэспубліка»)...

Праблемы мовы, яе функцыяніравання і ўжывання, а таксама культуры і нацыянальнай спадчыны займаюць, як звычайна, ці не першае месца сярод іншых тэм, якія ўзнімаюцца ў чытацкіх лістах.

Так, спадар Сяргей **Ш.** з Наваполацка даслаў надзвычай эмацыянальны водгук на артыкул В. Піліпчыка «Вярніце нарабаванае!», у якім з маладым максімалізмам і шчырай горыччу ўсклікае: «Што ж гэта за нацыя такая — беларусы, калі яна нават не можа пастаяць за сябе, за свой гонар, сваю радзіму?!» Праблема ўласнасці на гістарычныя і мастацкія каштоўнасці, лічыць аўтар, яшчэ, па сутнасці, і не пачынала вырашацца, нягледзячы на ўвесь аптымізм С. Шушкевіча. Беларусь павінна больш рашуча і патрабавальна выказаць сваё права на валоданне сваімі нацыянальнымі скарбамі.

**М. Бусел** з вёскі Дуброва Светлагорскага раёна піша пра паводзіны прадстаўнікоў розных канфесій на Беларусі, у прыватнасці, лічыць, што служкі Божыя ўсходняга і заходняга абрадаў літаральна захопліваюць усе магчымыя будынкі, не пакідаючы шанцаў вернікам іншых канфесій. «Да статуса калі не дзяржаўнай, то першай царквы ў дзяржаве рукой падаць, — піша аўтар пра праваслаўную царкву. — Небяспечныя амбіцыі ў поліканфесійнай краіне. А Беларусь жа — свецкая дзяржава». Застаецца толькі дадаць, што пагроза зрастання царквы і дзяржавы, прыватызацыя вернікамі агульнанацыянальных скарбаў (дзяржаўных музеяў і канцэртных залаў, у прыватнасці) становяцца ўсё больш рэальнымі і патрабуюць асобнай сур'ёзнай гаворкі.

Звяртаюцца нашы чытачы і да пытанняў нарматыўнасці беларускай мовы. Так, Аляксандр **Шустоўскі** з Барысава лічыць, што менавіта «травень» — беларуская назва веснавога месяца, прапануе раз і назаўсёды зацвердзіць гэтую форму.

Мінчук Аляксей **Анціповіч** заклікае да найхутчэйшага прыняцця спрадвечнай назвы сталіцы, якая павінна гучаць як «Менск». Ён прыводзіць даволі слушныя доказы таго, што не такія вялікія фінансавыя страты патрэбны на гэтае перайменаванне, узгадвае прыклады нядаўніх перайменаванняў у Балтыі, Расіі, Сярэдняй Азіі. «Час возьме сваё!» — аптымістычна зазначае аўтар.

Вялікую цікавасць сярод чытачоў выклікала і прапанова Пётры Васілеўскага наконт «восьмага варыянта гімна» — «Развітанне з Радзімай» Міхала Агінскага. Праўда, спектр думак тут дыяметральна супрацьлеглы. **В. Забайловіч** з горада Дуброўна Віцебскай вобласці, напрыклад, лічыць, што «нам не трэба гімн на развітанне. Патрабуецца гімн-заклік да стваральнай працы». А Мікалай **Радзівановіч** (г. Жлобін) упэўнены, што лепшага варыянта і не прыдумаць. «Але трэба пераканаць большасць жыхароў Рэспублікі Беларусь, што гэтая музыка беларуская, — адзначае аўтар. — Трэба напісаць біяграфію Міхала Агінскага, расказаць пра яго светапогляд, палітычныя погляды — словам, падвесці добры падмурак, тэарэтычна абгрунтаваць верагоднасць прыняцця такога гімна».

Радуе, што пры ўсіх нягодах і бядотах нашага жыцця характар пошты застаецца аптымістычным. Гэта нармальна, гэта добра, бо інакш у нашай парадаксальнай краіне не пражыць. Без надзеі на лепшае, без змагання за лепшае, без веры ў будучыню нашай аднаўленай дзяржаўнасці застанецца толькі ці з'ехаць у Аўстралію, ці сесці і горкагорка заплакаць, як той уладальнік «Запарожца». Другога жыцця, каб накапіць на новую «бляшанку» Бог нам не дасць. Другога шанца — на чацвёртае Адраджэнне — у нас не будзе таксама.

**Аддзел пісьмаў і грамадскай думкі.**

БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

# Алег ТРУСАЎ: «АДРАДЖЭННЕ — СТРАТЭГІЧНАЯ МЭТА АПАЗІЦЫІ»

**Гутарку вядзе Юрась ЗАЛОСКА**

**Апошнія пяць год мы, беларусы, жывём пад знакам Адраджэння. І гэта не рытарычнае паняцце — такім яно з'яўляецца хіба для аматараў пагаварыць, паскуголіць на руінах... Гэта — семантычны знак нашай цяпершчыны і нашай будучыні, у якую скіроўвае нас лёс. І мы мусім сцвердзіць сваю будучыню, спраўдзіць свой лёс.**

**Адраджэнне беларусаў напрыканцы XX стагоддзя ўвабрала ў сябе самыя разнастайныя памкненні народнага духу, якія ўрэшце-такі змаглі рэалізавацца, вольна замовіць сваё права. Адраджэнне стаіць на падмурку гісторыі, мінулага, культурны патэнцыял якога толькі і змог ажывіць нас, сучаснікаў. І мы напачатку зачароўваліся мінулым, каб вытрымаць супрацьстаянне з сучаснасцю. Але мінулае падахвочвала нас гаварыць, прамаўляць да сучаснага — і мы бралі з мінулага бацькоўскую мову, успаміналі словы, што гучалі ў вёсцы, у роднай хаце, і ўступалі ў дыялог з жыццём. Праз гісторыю і мову мы дужалі, а дыялог з сучаснасцю гартаваў наша цярпенне...**

**Першую выяву герба «Пагоня» Алег Трусаў змайстраваў у 1977 годзе, калі пасля заканчэння універсітэта працаваў са студатрадам на Лідчыне. Месца працы — рэстаўрацыйныя майстэрні — ён змяніў адзін толькі раз, калі стаў працаваць у Вярхоўным Савеце. Цяжка знайсці ў Беларусі помнік культуры, дзе б не праводзіў рэстаўрацыйных работ археолаг Алег Трусаў. У 1979 годзе ён, бацькі каго паходжаннем з беларускай шляхты-аднадворцаў і расейскіх сялян, загаварыў на беларускай мове... Мінула больш за дзесятак год, цяпер палітык Алег Трусаў — намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, намеснік старшыні Беларускай сацыял - дэмакратычнай грамады, намеснік старшыні парламенцкай апазіцыі. Асноўную работу ў нас, як вядома, заўсёды праводзяць намеснікі, ім лепш бачыцца сутнасць падзей, што адбываюцца ў палітычным і духоўным жыцці. Гутарка нашага карэспандэнта з Алегам ТРУСАВЫМ — пра характар беларускай дзяржаўнасці, расклад палітычных сіл у рэспубліцы, пра далейшае ўсталяванне нашай незалежнасці.**

**Ю. З.**



**— Алег Анатольевіч, на канферэнцыі па самасвядомасці беларусаў, што ў жніўні г. г. прайшла ў Маладзечне, вядомы дзеяч эміграцыі Янка Запруднік назваў нашу незалежнасць, дзяржаўны суверэнітэт «байструком гісторыі». Ці пагадзіліся б вы з такім вызначэннем нашай постсавецкай дзяржаўнасці?**

— Я цалкам не згодзен з Янкам Запруднікам. Наша цяперашняя дзяржаўнасць — гэта не байструк, але ФЕНОМЕН гісторыі. У нас зараз моцная парламенцкая рэспубліка, прычым нашмат мацнейшая, чым у іншых краінах СНД. Напрыклад, у Таджыкістане дзяржаўнасць імгненна разбурылася, нягледзячы на моцны нацыянальны менталітэт таджыкаў (захаванне мовы, мусульманства і г. д.). Там пачалі ваяваць кланы, разгарэлася сапраўдная грамадзянская вайна... Таджыкі не дасягнулі яшчэ еўрапейскага нацыёўсведамлення, там яшчэ захоўваецца сярэднявечча, закансерванае бальшавікамі. А ў нас, беларусаў, ёсць моцная беларуская дзяржава.

**— Што значыць «моцная дзяржава»? Таталітарная дзяржава была таксама моцнай, але мы памятаем пра яе псеўдадэмакратычны і антынацыянальны характар. Дарэчы, як бы вы ацанілі цяперашні характар беларускай дзяржаўнасці — гэта посттаталітарызм ці што іншае?**

— У нас цяпер неа-таталітарны лад. Посттаталітарызм ужо мінуўся, ён быў з 27 ліпеня 1990 года да 25 жніўня 1991 года, усяго толькі год. На працягу таго года існавала кампартыя, але ўжо не была накіроўваючай і вырашальнай сілай у грамадстве. Існаваў таксама СССР як адзіная дзяржава, але ў нас была адначасова і фармальная незалежнасць. Вельмі добра, што мы хутка прайшлі посттаталітарны перыяд сваёй палітычнай гісторыі.

Пасля паражэння путчу рэфармаванне таталітарнага ладу ў дэмакратычны адбываецца асабліва хуткімі тэмпамі, бо зніклі перашкоды ў асобе КПСС-КПБ, дзяржбяспекі, палітызаванай ваеншчыны. Але разам з тым захавана і штодзённа ўзмацняецца парламенцка-рэспубліканская форма дзяржаўнага ўладкавання, і ў гэтым — галоўная прычына сацыяльна-палітычнай стабільнасці Беларусі. Гэтая акалічнасць паспрыяла набыццю Беларуссю міжнароднага аўтарытэту. Зусім невыпадкова ў нас, у Менску, адкрыта першае паўнамоцнае прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у краінах СНД.

У той жа час беларуская дзяржава застаецца антыбеларускай па стаўленні да нацыянальнай культуры і духоўнага Адраджэння беларускай нацыі. Вазьміце дзеля прыкладу пазіцыю ўрада Рэспублікі Беларусь па шэрагу пытанняў: вайсковай справе, выкананні Закона аб мовах і іншых. Таму апазіцыя (БНФ) і ставіць пытанне аб адстаўцы ўрада, і раней ці пазней мы адправім яго ў адстаўку. Сфарміраваны ценявы кабінет міністраў, ценявым прэм'ерам з'яўляецца Уладзімір Заблоцкі — цяперашні намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па навукова-тэхнічным прагрэсе. І калі б Заблоцкі стаў кіраўніком урада рэспублікі, — беларусізацыя пайшла б у дзесяць разоў хутчэй...

**— Такім чынам, галоўнае для апазіцыі зараз — выйграць магчымы рэферэндум?**

— Рэферэндум для апазіцыі не з'яўляецца самамэтай. Гэта толькі актыўны сродак уздзеяння на ўрад. Каб не было пагрозы рэферэндуму, наш урад працаваў бы нашмат горш, чым працуе цяпер. Ураду дзеля нармальнай работы, як паказвае практыка, патрэбны пастаянныя штуршкі з боку апазіцыі. Напрыклад, як было з арганізацыяй дапамогі пагарэльцам улетку? Калі БНФ заявіў аб зборы сродкаў пацярпелым жыхарам рэспублікі, урад імгненна зрэагаваў, у Магілёўскую вобласць паехаў сам прэм'ер В. Кебіч, які загаварыў з сялянамі па-беларуску; знайшліся і грошы, іншыя сродкі дапамогі.

Магчымы два варыянты далейшага развіцця падзей у Беларусі. Калі апазіцыя ў выніку рэферэндуму прыходзіць да ўлады, у апазіцыю ператворацца тыя, хто знаходзіцца пры ўладзе зараз. Мы спадзяёмся на гэты варыянт, бо мяркуем, што возьмем на новых выбарах больш паловы галасоў. У такім разе мы сфарміруем кааліцыйны ўрад, у якім будуць прадстаўлены розныя партыі і рухі. Калі ж такі варыянт не з'дзейсніцца — апазіцыя не набярэ больш паловы галасоў, — тады мы застаёмся апазіцыяй і надалей, але апазіцыяй больш моцнай. Гэта таксама някепска, бо цяпер мы маем у Вярхоўным Савеце толькі каля дзесяці працэнтаў галасоў, а такім лікам прадстаўніцтва вельмі цяжка заблакіраваць які-небудзь непажаданы для апазіцыі закон.

Асноўнае спадзяванне апазіцыі Беларускага народнага фронту, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Беларускай сялянскай партыі, іншых партый і рухаў нацыянал-адраджэнскай і дэмакратычнай накіраванасці — усё-такі не на рэферэндум. Рэферэндум можа быць, а можа й не быць, гэта адзін з дробных этапаў палітычнай барацьбы. Асноўнае наша спадзяванне палягае на нацыянальнае, духоўнае Адраджэнне Беларусі. Яно, Адраджэнне, з'яўляецца стратэгічнай мэтай апазіцыі.

**— Вы кажаце «апазіцыя», падразумяваючы, пэўна, яе нацыянал-дэмакратычны фланг. Аднак жа ёсць і іншы, супроцьлеглы фланг — камуністычны. Наколькі сур'ёзным вам уяўляецца процістаянне гэтых флангаў апазіцыі?**

— Суполкі, што збіраліся 17 верасня г. г. на пляцы Незалежнасці ў Менску, — гэта не апазіцыя, як іх імкнуцца распрапагандаваць і прадстаўляюць урадавыя сродкі масавай інфармацыі. Гэта чарговы міф нашага ўрада, якому выгадна ўкараніць у грамадскую свядомасць уяўленне пра левую апазіцыю. Народны фронт, маўляў, знаходзіцца на правым фланзе палітычнага спектру, а мы, урад, — акурат па цэнтры. Вось які ў нас памяркоўны, спакойны ўрад, не тое, што два экстрэмісцкія флангі.

Але такое ўяўленне пра расклад палітычных сіл — гэта, паўтараю, чарговы міф урада, які апошнім часам актыўна прапагандуецца і на які, на жаль, паддаюцца некаторыя сродкі масавай інфармацыі. Напрыклад, так адбылося з тэлеперадачай «Крок», якая пракаментавала жнівеньскія мітынгі БНФ і камуністаў як супроцьстаянне дзвюх экстрэмісцкіх сіл. На самай справе камуністычная групоўка з'яўляецца правым флангам кіруючай сістэмы, яе сапраўдным экстрэмісцкім крылом. Гэта кішэнная групоўка ўрада, з ім яна ўзгадняе ўсе свае дзеянні і акцыі.

Наша, дэмакратычная апазіцыя ў Вярхоўным Савеце — апазіцыя канструктыўная. Урад Кебіча лічыцца з апазіцыяй больш, чым урад Гайдара з уяўнай апазіцыяй у Расіі. Хоць мы ўрад крытыкуем і ставім пытанне аб яго адстаўцы, але мы з урадам супрацоўнічаем там, дзе лічым патрэбным. Крытэрый для супрцоўніцтва апазіцыі з урадам адзін — умацаванне беларускай дзяржаўнасці. У гэтым канструктывізм апазіцыі. Я, напрыклад, свядома дапамагаю некаторым міністрам вырашыць тое ці іншае пытанне, калі гэта, на мой погляд, паспрыяе ўмацаванню міністэрства. Калі б я быў класічным апазіцыянерам, дык я зрабіў бы ўсё магчымае, каб разбурыць гэта міністэрства і прыйсці на месца міністра. Але задача нашай апазіцыі — не разбурэнне існуючых структур, а іх рэфармаванне да кшталту дэмакратычнай беларускай дзяржавы. Нас больш цешаць не ўласныя акцыі, мітынгі БНФ, а рэальныя змены структур дзяржавы. Напрыклад, галоўным дасягненнем апазіцыі ў вайсковай справе было не свята беларускай вайсковай славы 8 верасня, а прыняцце рэальнай прысягі 6 верасня курсантамі менскіх ваенных вучылішч — каманднага і інжынернага.

**— Атрымоўваецца, што нацыянальны змест дзяржаўнасці прадукуецца апазіцыяй БНФ, а не афіцыйнай уладай, якая па ідэі прадстаўляе БЕЛАРУСКУЮ дзяржаву, выступае ад імя БЕЛАРУСКАГА народа, але не з'яўляецца беларускай сутнасна?**

— Так. Апазіцыя выконвае вядучую ролю ў сферы гуманітарнага заканадаўства, у якую «большасць» у Вярхоўным Савеце амаль не ўмешваецца, а толькі пасіўна супраціўляецца беларусізацыі культуры. Законы аб культуры, адукацыі, грамадзянстве ў Беларусі выкананы на высокім прафесійным узроўні, такіх законаў не здолелі распрацаваць у іншых рэспубліках. Напрыклад, Расія нядаўна прыняла закон аб адукацыі, цалкам узяўшы за аснову адпаведны наш закон, і гэта не адзіны прыклад юрыдычнага пераймальніцтва. Нашыя гуманітарныя законы зандзіравалі заходнія эксперты, яны даюць ім высокія, станоўчыя ацэнкі. А вось законы аб прыватызацыі ў нас слабыя, заганныя, бо прымаліся на ўгоду «большасці».

Што тычыцца небеларускасці афіцыйнай кіруючай сістэмы ў Беларусі, дык прычыны гэтага карэняцца ў нашай гісторыі. Вядомая статыстыка нацыянальнага складу дзяржаўных служачых — беларусы сярод іх складаюць адносную меншасць. У гэтым няма нічога дзіўнага. КПБ сярод кампартый рэспублік былога Саюза была самай горшай. Калі ў 30-я гады з яе кіраўнікоў адстралялі апошняга беларуса, у ЦК прыйшоў Панамарэнка. Вядомыя дакументы, паводле якіх Панамарэнка прасіў (!) Маскву павялічыць колькасць расстраляных на Беларусі... Панамарэнка пачаў дамагацца, каб на кіруючых пасадах было як найменей беларусаў, вылучаў да кіраўніцтва пасланцоў з Расіі альбо рускамоўных, перарадзіўшыхся беларусаў. Калі літоўцы, казахі, таджыкі і інш. вылучалі нацыянальныя кадры, тым самым блакіруючы ўплывы цэнтральных, саюзных органаў, у Беларусі рабілася наадварот. Горш таго: Панамарэнка выхаваў тутэйшых янычараў — К. Мазурава, П. Машэрава, якія палітыку русіфікацыі праводзілі больш жорстка, чым гэта рабілі б выхадцы з Расіі. Мне згадваецца, напрыклад, 1973 год, калі Машэраў выдаў загад па партыі змагацца з нацыяналізмам. Быў складзены «чорны» спіс, куды патрапілі г. зв. «нацыяналістычныя» арганізацыі, сярод іх акадэмічныя інстытуты гісторыі, мастацтвазнаўства, літаратуры, рэстаўрацыйныя майстэрні, дзе я потым працаваў. Многія людзі тады пацярпелі, назаву хіба прозвішчы З. Пазняка, М. Чарняўскага, С. Друшчыца, Л. Ліпеня...

**— Дарэчы, якім чынам з таго зрусіфікаванага інтэлігенцкага масіву змаглі вылузацца дзеячы цяперашняй апазіцыі? У суседняй Летуве, як вядома па публікацыях, актыўна дзейнічала заходняя рэзідэнтура, звязаная з летувіскай эміграцыяй у ЗША, ідэі незалежнасці і Адраджэння без перашкод прапагандаваліся ў нацыянальных літаратурна-мастацкіх выданнях..**

— Літоўцы, у адрозненне ад беларусаў, ніколі не сумняваліся, што Літва стане незалежнай. Я не ведаю ніводнага літоўца-гісторыка, археолага альбо пісьменніка, якія б у 70-я гады сумняваліся ў гэтым. Верылі ў незалежнасць Літвы і камуністы. Невыпадкова выходзілі такія летувіскія газеты і часопісы, пра якія вы нагадалі. ЦК КПЛ і літоўскі КДБ рабілі выгляд, што іх не чыталі. КДБ працаваў актыўна, і кіраўніцтва КПЛ цудоўна ведала, што гаворыць і піша нацыянальная інтэлігенцыя. Таго, аднак, не маглі ведаць маскоўскія агенты ў структурах улады Літвы, бо яны не валодалі літоўскай мовай. ЦК КПЛ умацаваў рэспубліканскую дзяржбяспеку мясцовымі кадрамі, і фактычна не КДБ кантраляваў партыю, але летувіская кампартыя кантралявала дзяржбяспеку. Часта здаралася так, што тайныя агенты КДБ з'яўляліся г. зв. «двайнымі» агентамі, і больш працавалі на Бацькаўшчыну, чым на Маскву. Цяпер у Вільні пачалося актыўнае выкрывальніцтва такіх агентаў сярод дэпутатаў парламента, лідэраў партый...

Літоўцы выступалі за незалежнасць адзіным фронтам: і літоўцы-камуністы, і літоўцы-эмігранты. Дзесь на нейтральнай тэрыторыі яны знаходзілі агульную мову, бо разумелі, што толькі супольнымі намаганнямі могуць дабіцца незалежнасці Літвы. Працуючы на незалежнасць, літоўцы выкарыстоўвалі ўсё, што собіла. Была кіруючай партыя — выкарыстоўвалі і партыю. Літоўскія камуністы, дзяржаўныя кіраўнікі былі больш літоўцамі, чым камуністамі. Доўгі час КПЛ кіраваў Антанас Снечкус. Гэтаму літоўцу Літва яшчэ паставіць помнік. У часы хрушчоўскага наступу на культуру і рэлігію А. Снечкус не дазволіў знесці ў Літве аніводнага храма, больш таго: ніводзін храм не быў закрыты для багаслужбаў. У той час, як на Беларусі сотнямі ўзрываліся храмы і помнікі гісторыі, у тым ліку была ўзарвана Благавешчанская царква ў Віцебску, у Літве, за дзяржаўныя, савецкія грошы(!) будаваўся Тракайскі замак, супраць чаго катэгарычна выступаў М. Хрушчоў, разумеючы, што тым самым у Літве адраджаецца адзін з самых галоўных сімвалаў незалежнасці. Хоць кіраўнікі КПЛ Снечкус, а па ім Грышкявічус і даводзілі ў Маскве, што будаўніцтва спынена, яно тым часам ніколі не перапынялася...

(Працяг на стар. 12).

ЧАСОПІСЫ Ў 1993 ГОДЗЕ

# ПРАГА СУЧАСНАСЦІ

## Гутарка з галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць» Генрыхам ДАЛІДОВІЧАМ

**— Генрых Вацлававіч, у новы год маладосцеўцы ідуць не толькі з новымі планамі і творамі, але з новым фарматам, які змяніўся з сёлетняга сёмага нумара. Многія пастаянныя чытачы падкрэсліваюць, што быццам усё стала зручней, але ж, здаецца, «Маладосць» страціла ранейшы аб'ем.**

— Пачнём з апошняга. Вясной гэтага года «Маладосць», літаратурны дадатак да яе апынуліся ледзь не пад пагрозай закрыцця. ЦК Саюза моладзі Беларусі даволі нечакана адмовіўся ад правоў і абавязкаў заснавальніцтва. «Тоўсты», з салідняй літаратурнай рэпутацыяй часопіс і дадатак да яго сталі яму непатрэбныя, як заадно і значны атрад маладых творцаў, чытачоў, а ў некаторай ступені і моладзі рэспублікі. У гэтай сітуацыі мы пачалі шукаць таго, хто падтрымаў бы выданне. Плячо нам падставіла выдавецтва «Полымя», але паколькі паперай мы былі забяспечаныя толькі да сёмага нумара, то ў новай сітуацыі Міністэрства інфармацыі змагло нам выдзеліць толькі паперу іншага, чым раней, фармату. У сувязі з гэтым мы былі змушаны ў сярэдзіне года мяняць фармат нашых выданняў. Што да аб'ёму ўлікова-выдавецкіх аркушаў, то тут амаль нічога не страцілася (у папярэдніх нумарах быў крыху большы аб'ём за кошт дробных шрыфтоў). Так што ні аўтары, ні чытачы ў гэтым сэнсе інфармацыйных страт не панясуць.

Цяпер — трывога, клопат пра падпіску, бо ад яе залежыць далейшы лёс «Маладосці» (дарэчы, ёй налета 40 гадоў, а «Бібліятэцы» — 5). Мы, аднак, верым, што сур'ёзны чытач, які і зараз арыентуецца ў кніжным і газетным моры, асабліва не «дзяўбе» багата высыпаную дзялкамі-выдаўцамі масавую халтуру на рускай мове, аддае перавагу не кідкім жахлівым загалоўкам ды малюнкавай разбэшчанасці, а сур'ёзным рэчам і да ўсяго на беларускай мове, не можа абысціся без «Маладосці».

**— Звычайна асноўны цяжар у кожным часопісе нясе проза. Што маркуеце ў 1993 годзе надрукаваць у гэтым жанры вы?**

— Як вядома, асноўная наша задача — друкаваць маладых. Гэта і клопатна, але гэта і цікава: маладым дадзена магчымасць зірнуць на свет, сказаць сваё слова пра яго і пра сябе па-свойму, па-новаму. Такія творы, апавяданні і невялікія аповесці будуць у кожным нумары. Думаю, Наварыч, Казлоў, Федарэнка, Пятровіч, Крэйдзіч і іншыя — аўтары першых кніжак і першых празаічных падборак — павінны, абавязаны падаць свой голас ужо гучней і больш важка. Безумоўна, мы не можам не супрацоўнічаць з нашымі аксакаламі. Новыя аповесці нам прапанавалі вядомыя нашы празаікі Іван Шамякін і Уладзімір Дамашэвіч, якія цяпер набылі другое дыханне. Многіх зацікавіць публікацыя невядомай аповесці Уладзіміра Караткевіча. Тое ж можна сказаць і пра паэтаў: увага — і моладзі, і майстрам.

**— У «Маладосці», на мой погляд, заўсёды быў моцны публіцыстычны раздзел (адношу сюды і літаратурна-крытычныя публікацыі)...**

— Скажу шчыра, вельмі хацелася б своечасова, глыбока асэнсоўваць тое, што адбываецца цяпер у нашай рэспубліцы. Без перабольшвання ў нас прага сучаснасці. Трэба ж разважаць, што адбываецца ў нашай навуцы, эканоміцы, культуры, якія працягваюцца былыя і якія ўзнікаюць новыя тэндэнцыі, да чаго яны вядуць. Ёсць ужо некалькі аўтараў, якія прапанавалі на гэтую тэму свае развагі. Калі іх будзе больш, мы толькі будзем радавацца і рабіць усё, каб іхняя публіцыстыка трапіла найхутчэй на старонкі, як, скажам, дзённік-споведзь юнака, які па-маладому неабачліва трапіў у калонію.

Па-ранейшаму будзе пільная ўвага да нашай гісторыі. Вядомы наш літаратар і даследчык Мікола Ермаловіч прапануе працяг знакамітай кнігі «Старажытная Беларусь», а гісторык Міхась Чарняўскі —працяг цыкла гістарычных нарысаў «Гісторыя Беларусі ў ілюстрацыях». Працягнем публікацыю матэрыялаў з серыі «З архіваў КДБ». Думаецца, павінны быць цікавымі выступленні ўдзельнікаў «круглага стала» пры абмеркаванні ўдач і пралікаў цяперашняй маладой літаратуры, а таксама слова пра нашых маладых мастакоў, дзеячаў кіно і тэатра, кампазітараў і спевакоў, спартсменаў. Так што раздзел, што займае адносна невялікую плошчу ў часопісе, павінен быць напоўнены змястоўнымі публікацыямі, якія пашыраць кругагляд нашага чытача.

**— Некалькі слоў пра «Бібліятэку часопіса «Маладосць».**

— На сённяшні дзень каля пятнаццаці аўтараў, якія выдалі свае першыя кнігі ў маладосцеўскай серыі, сталі ўжо членамі Саюза пісьменнікаў. Не менш і на падыходзе да гэтага. І ў 1993 годзе асноўная ўвага будзе ўдзелена якраз моладзі, каб ёй у наш нялёгкі для іх час даць магчымасць хутчэй творча заявіць пра сябе, выйсці да чытача з першай кнігай. Іхнімі аўтарамі будуць В. Праўдзін, В. Мудроў, У. Міхно і інш. Прыемна, што творы ў гэтых кнігах будуць на самыя розныя тэмы — пра наш дзень і пра нашу гісторыю, дэтэктыўнага і фантастычнага напрамку. Па мастацкіх якасцях і духоўных набытках яны будуць значна вышэй за многія з тых, што, як казалася ўжо, цяпер абвальна выдаюцца нашымі кааператарамі дзеля вытрасання грошай з кішэнь нашых даверлівых рускамоўных чытачоў.

**— Што да кошту падпіскі...**

— Ён у параўнанні з іншымі выданнямі даволі цярпімы. Спадзяёмся, што нашы прыхільнікі знойдуць наступныя сумы:

Часопіс «Маладосць». На месяц — 8 руб., на паўгода — 48 руб. Індэкс 74957.

«Бібліятэчка часопіса «Маладосць». На месяц — 6 руб., на паўгода — 36 руб. Індэкс 74821.

Гутарыў **Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

ПА СТАРОНКАХ ПЕРЫЁДЫКІ

# У ПОШУКАХ ДУХОЎНАГА ІДЭАЛУ

І душы жыццё ўжо не дакажа,
нагнятаючы то гнеў, то злосць,
што даўно пара ёй стаць інакшай,
чым яна на самай справе ёсць.

Соф'я ШАХ.

Памятаецца даўняя размова з адным вядомым літаратарам, які вучыў мяне, пачаткоўца, як трэба складаць рукапіс кнігі: маўляў, тры-чатыры «паравозікі», — а ўжо пасля ўсё тое, што хочаш сказаць, каб лягчэй прайсці праз рэдактуру і Галоўліт. Што ж, так жылі, так тварылі, і ў тым ліку тыя, хто і сёння працягвае запускаць «паравозікі», дзе замест слоў «партыя», «Ленін», «Аўрора» — «Пагоня», «бел-чырвона-белы сцяг», «незалежнасць». Але гэта так, для прыказкі, бо рамяство рамяством, але ж літаратура была, ёсць, і, спадзяюся, будзе ва ўсе часы. Літаратура, якая куды вышэй і глыбей за нас, творцаў, якая заўсёды — вынік і працяг духоўных пошукаў нацыі, маяк і апірышча для тых, хто не забыўся, што, акрамя страўніка і іншых патрэбных органаў, у чалавека яшчэ ёсць душа.

У прыродзе не бывае пустаты, і пакуль жыве чалавецтва, яно заўсёды будзе шукаць ідэалы, будзе пэўніць веру, будзе ставіць балючыя пытанні аб месцы і ролі сябе ў свеце. І чытаючы сённяшнюю перыёдыку, бачу, як балюча, няпроста ідзе ачышчэнне душы, ідзе пошук ідэалаў, не, не новых, а, я б сказаў, вечных, бо не можа быць старой ці новай маралі — яна заўсёды адна.

І я, пакуль на свет гляджу
І на дарогах Беларусі
Не жабраком сляпым хаджу,
На шчасце й Волю
спадзяюся.

(В. Шніп, «Полымя»).

Край, воля, Храм, Бог — вось сёння паняцці і словы, якія можна знайсці амаль у кожнай часопіснай ці газетнай публікацыі. Добра гэта ці дрэнна? Безумоўна, добра, бо, нарэшце, нібы каштоўны вечны метал, скінуўшы бруд і твань, зазіхацелі яны сваёй сапраўднасцю і магутнай веліччу.

Але... чаму раптам роспачна і горка вырываецца ў Леаніда Галубовіча?

Хоць пад акном і снег ляжыць,
І сонца ў небе коціцца,
І смех гучыць, і кроў бяжыць,
А жыць — ужо не хочацца.

(«Беларусь»).

А за ім — Людміла Рублеўская:

Тут, дзе ніжэюць і вышэюць лёсы,
Дзе толькі сорам і п'яныя слёзы,
Не збудаваць нам Храму цішыні.

(«Роднік»).

Не менш песімізму ў вершах маладой паэткі Іны Снарскай:

Якая вера? Бачыш, бездань ззяе,
І грае, і смяецца, і трымціць,
І гругання раз'юшаная зграя
Тваё сляпыя вочы будзе сніць.

(«Маладосць»).

Думаецца, што паэты тут не проста шчымліва шчырыя ў сваіх настроях, іх радкі якраз і сведчаць пра той балючы працэс, які перажываем усе мы, бо не проста ідзе змена дэкарацый, ідзе ломка. Тут і страта, і туга па нечым незваротным, і ачышчэнне душы праз пакуты, змаганне з самім сабой, праз слёзы, роспач і бязвер'е — да надзеі, да пакліку, да здзяйснення. А як жа інакш, бо было б усё занадта проста, калі можна было б прачнуцца назаўтра зусім іншым і зажыць адразу па-новаму.

Ды так не бывае ні ў чалавека, ні ў народа, ні ў краіны.

І стаіць — як бяздомны — народ,
І пытае як тысячу год:
— Дзе наш новы начлег,
Дзе наш Ноеў каўчэг?

(В. Зуёнак, «Полымя»).

У палітыкаў прасцей: вызначана задача, намечаны шляхі, абазначаны арыенціры. Канешне, гэта таксама прастата ўяўная, за якой — самаахвярнасць, гарэнне, мужнасць. Тым не менш, настроіць душу, запаліць у ёй нязгасны агонь веры, упэўненасці і аптымізму — працэс куды больш складаны і пакутлівы.

Вяртанне да існасці, да Айчыны, да Бога — з'ява глыбока інтымная, індывідуальная, якая таксама не церпіць паказухі ці кампанейшчыны. І тут недастаткова проста прадэклараваць, як гэта робіць Хв. Гурыновіч:

Ці вера прачнулася ў нас,
Ці загаварыла сумленне?
І хочацца ў гэты вось час
Прад Госпадам стаць на калені.

(«Полымя»).

Усё куды больш складана. Нездарма ж шлях да веры сапраўднай ідзе праз пакаянне, праз выпрабаванне і ахвярнасць. А вось менавіта гэтага часам і не відаць у шмат якіх вершах, і імя Бога ў іх гучыць калі не кашчунна, то, па крайняй меры, легкаважна і павярхоўна. Як высокі абраз побач з таннай падробкай свецяцца ў памяці цудоўныя радкі Н. Арсенневай з верша «Магутны Божа», якія павінны ўсё ж стаць нашым нацыянальным гімнам.

Літаратура, як і ўсе мы, зараз перажывае вельмі складаны час. У сферы духоўнай як ні ў якой іншай відаць, што мы страцілі за мінулыя сем дзесяцігоддзяў, якімі страшнымі цянётамі духоўнага жабрацтва аблыталі нас, як здратавалі нашыя душы, атруцілі іх няўпэўненасцю і бязвер'ем.

Нам трэба вяртацца нанава да разумення сапраўднай годнасці і праўды, да чысціні і глыбіні пачуццяў, да пошуку і спасціжэння вечных ісцін. Каб выгукнуць, як В. Зуёнак:

А я — да магілы схілюся —
І чую дыханне Бога.
І ў небе — душа Беларусі.
І болей — няма нікога.

(«Полымя»).

Духоўнасць заключаецца не толькі ў адносінах да Радзімы, да мовы, да сваіх каранёў. Гэта і лад жыцця, гэта і пачуцці паміж людзьмі. На жаль, у сённяшняй перыёдыцы амаль не сустрэнеш вершы «пра гэта» (я наўмысна не хачу ўжываць слова «каханне», бо, як і многія іншыя, яно ад частага і дэкларатыўнага ўжытку дэвальвавалася, ператварылася ў пэўны стэрэатып). Ды сёння нібыта ў шэрагу іншых пераацэнак існуе і «новы погляд» на гэтае пачуццё, хаця, я думаю, і ў Еўропе, і ў Штатах чыста механічны секс усё ж не выцесніў дарэшты гэтага пачуцця, якое хто-хто, а літаратура заўсёды ўзнасіла ў шэраг самых высокіх і чыстых чалавечых рыс. Ды якое там каханне, калі раней такі папулярны наш маладзёжны часопіс «Крыніца», што раптам стаў «Роднікам», пачынаецца з артыкула «Мой муж гомасексуаліст», а канчаецца не менш «лірычным» — «Я лесбіянка, ну і што?».

Дарэчы, ні гомасексуалісты, ні лесбіянкі, ні славутае двухмоўе не дапамаглі «Родніку» падвысіць наклад, які імкліва падае — разам з аўтарытэтам часопіса, на які было столькі спадзяванняў.

А што так званая «альтэрнатыўная» прэса — самвыдат, які зараз атрымаў усе правы? Пра гэта — у наступным аглядзе.

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.

***Віншуем!***



## *Алене КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВАЙ — 60*

13 кастрычніка спаўняецца 60 гадоў Алене **Кобец-Філімонавай.** Віншуем Алену Рыгораўну з юбілеем, зычым ёй новых творчых поспехаў, доўгіх год жыцця!

## НАШ КАЛЯНДАР

**25 кастрычніка спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння Аляксандра РАЗЕНФЕЛЬДА, беларускага фальклfavарыста і этнографа (год смерці невядомы). У 1912—1916 гадах кіраваў Беларускім навукова-літаратурным гуртком студэнтаў Пецярбургскага універсітэта. У 1904 годзе апублікаваў «Беларускія народныя песні», запісаныя ў ваколіцах Радашкавіч, у Сёмкавым Гарадку, Рубяжэвічах, Астрашыцкім Гарадку, а таксама ў Барысаўскім і Рэчыцкім паветах. Аўтар фальклорна-этнаграфічнага эцюда «З жыцця беларуса», у якім разглядаюцца зажынкавы і дажынкавы абрад, песні.**

**80 гадоў назад у Вільні выйшаў сатырычны часопіс «Крапіва». Пабачыў свет пад рэдакцыяй Змітрака Бядулі ў выдавецтве газеты «Наша Ніва». Змешчаны гумарэскі, анекдоты, прадстаўлена палітычная сатыра.**

**60 гадоў (9 кастрычніка) з дня нараджэння паэта Івана КАЛЕСНІКА (памёр 10 чэрвеня 1979 года). Аўтар кніг «Белыя каштаны», «Пяць сузор'яў», «Калі разам мы» і іншых. Займаўся перакладамі.**

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# ЗГАДКІ МАЛАДОСЦІ СВЕТЛАЙ

ПАД СІНІМ НЕБАМ

**У «Мастацкай літаратуры» пабачыла свет яшчэ адно факсімільнае выданне. Выйшла зноў першая кніжка Наталлі Арсеневай «Пад сінім небам», выпушчаная яшчэ ў 1927 годзе ў «Віленскім выдавецтве» Б. Клецкіна (выпуск ажыццёўлены па асобніку, які захоўваецца ў асабістай бібліятэцы Барыса Сачанкі).**

**З сённяшнім чытачом гаворыць колішняя, зусім яшчэ маладая паэтэса, якой на час выхаду зборніка было ўсяго дваццаць чатыры гады. У вершах яе толькі яшчэ прабіваўся паэтычны голас, яны пазначаны светлым, а ў нечым і рамантычным успрыманнем жыцця.**

**Дэбют Н. Арсенневай заўважыў М. Гарэцкі. У 1928 годзе ён пісаў: «...У беларусаў пад Польшчаю з'явілася шмат маладых паэтаў, пісьменнікаў і публіцыстаў, але з выдатных імёнаў можна тым часам назваць хіба толькі адно—гэта імя Наталлі Арсенневай Аляксееўны — расіянкі па нацыянальнасці, а беларускі толькі па жыхарстве і культуры».**

**Словы гэтыя прыводзяцца на супервокладцы цяперашняга выдання. Расказваецца пра жыццёвы і творчы шлях паэтэсы.**

**Леанід ДРАНЬКА-МАЙСЮК**

# Пра тое, як я ў Ізраіль ездзіў



## Апавяданне

*Галіне БУЛЫКА*

НЕЯК УВЕЧАРЫ, зусім позна ўжо, у сваім пакоі цёплым дужа марнаваўся я, каля дзвярэй балконных стоячы. Не пра што-небудзь — пра Ізраіль думаў.

Марнаваўся я, маркоціўся — сябра свайго ўруцкага спадара Акудовіча ўспамінаў.

Спадар Акудовіч за дзень да гэтага ліст мне ізраільскі прачытаў, з Ашдода сектарагазаўскага, што Хаім Калін яму напісаў, начальнік яго былы.

Не ліст — цукерка на пяці старонках!

Пазайздросціў я спадару Акудовічу — яму, можна сказаць, землякі з Ізраіля пішуць, а мне? Хіба ж няма іх там, давыд-гарадчукоў цемнавокіх? Ну, хоць бы ў Ашдодзе тым сектарагазаўскім?

Паглядзеў я ў бок Давыд-Гарадка роднага, дзеда Мікалая ў тумане гарынскім убачыў і пра нашых цемнавокіх, ці ёсць яны ў Ізраілі, спытаўся.

Дзед шклянку віна чырвонага, самаробнага выпіў і на пытанне трывожнае проста ў дзверы мае балконныя даў адказ вясёлы:

— А як жа ж, ёсць! Паедзь, унучак, ды пашукай там Боруха Фрэдмана! Ён жа дружбак мой польскі!

«Ну, калі так,— усцешыўся я са слоў дзедавых,— то няма чаго тут спадару Акудовічу зайздросціць».

Падахвочаны весткаю радаснай, з самага ранку не марудзіў я — Незалежнай у ножкі так і бухнуўся:

— Выпусці, Незалежная, у Ізраіль! Землякоў пашукаць трэба ды падштурхнуць іх, каб і мне пісалі!

— Едзь! — коратка адказала Незалежная, і я паехаў.

У дарозе не забавіўся.

Прыязджаю гэта і, натуральна, што, інтэрас пільны маючы, не з сенцаў—з ганка ізраільскага шукаць пачынаю.

Дзень першы ў Тэль-Авіў — Яфе пабыў, Іоппе колішняй. Ну само па сабе, што ў небе тую з'яву з абрусам вялікім пашукаў, якую на вочы свае, у Сымона-гарбара жывучы, святы апостал Пётра бачыў. Не знайшоў яе, тую з'яву з абрусам палатняным, і, пешкі, як той апостал, вандруючы, у Бат-Яме апынуўся. У Бат-Яме апынуўся і землякоў напаткаў. Праўда, землякі цемнавокія не з Давыд-Гарадка трапіліся, а пакуль што з Калінкавічаў, ад сэрца майго крыху аддаленых.

— У Бат-Яме няма тваіх,—сказалі мне землякі з Калінкавічаў,— раней жылі, ды ўсе чыста паўміралі.

— Мне б гэта як да Боруха Фрэдмана дабіцца.

— Боруха Фрэдмана ў Нетаніі папытай, Нетанія тут недалёка...

Падзякаваў я зямлякам з Калінкавічаў, што ад сэрца майго крыху аддаленыя. адпачыў у Бат-Яме пад галінаю апельсінавай, каўбасы мінскае паеўшы, і па даліне шаронскай на поўнач палесцінскую махануў — у Нетанію жаданую беручыся. Не пешкі — на колы ўзбіўся і ехаў, шчаслівы, пад цырату абдзёртую ногі падагнуўшы. У вуха субтрапічнае шафёру-арабу паглядваў і думаў-думаў з нейкім шкадаваннем замілаваным. Пра Боруха Фрэдмана думаў. Што й казаць, ваяка стары! Мусіць, пры ўнуках ды праўнуках таўчэцца, краявіды гарынскія ўспамінаючы.

У Нетанію жаданую хутка прыехаў, дарога паўз ваду міжземнаморскую бегла, у ямы не заскоквала. З шафёрам-арабам расплаціўся я талонамі на віно азербайджанскае. З неспадзяванкі такое той нават падзякаваць забыўся.

Шанцавала мне крута, бо й тут на адным месцы доўга не тупаў. Нетанійку адну сімпатурную сустрэў і ад яе даведаўся, дзе гэта жыве Фрэдаман дзевяностагадовы...

Убачыў мужчыну я, хоць і дзевяностагадовага, але ж пры памяці пэўнай ды голасе бадзёрым. Узрадаваўся Фрэдман стары, калі пачуў, адкуль я — не перадаць як узрадаваўся! А калі даведаўся, чый унук я, то абдымаць мяне стаў, ды цалаваць-прыцалоўваць кінуўся. Праўнучку Махалафу паклікаў, загадаў курачку засмажыць і частаваў мяне, як госця самага лепшага, у вінаградніку сваім прахалодным. Перш наперш, як той Ісак старазапаветны, пажадаў мне шмат хлеба мець заўсёды і віна шмат, а пасля...

А пасля нагаварыў-нарасказваў усяго пра жыццё маладое сваё, жыццё давыдгарадоцкае, панамі варшаўскімі густа абстаўленае. Столькі гісторыек усялякіх насыпаў, што яны, гісторыйкі тыя, у кош самы вялізны не патоўпіліся б! Нічога не хаваў Фрэдман стары, дзевяностагадовы. Нічога, нічога. Не гроша беднага, ні злота хлебнага...

Не проста жыццё — эпапея цэлая перада мной разгарнулася. Ды не буду ўслед за Фрэдманам старым жыццё ягонае пераказваць. Баюся: прытамлю чытача свайго рэдкага, чырванакніжнага, а падзеямі лішнімі сапсую форму гэтага апавяданнейка празрыстага. Скажу адно дзеля ходу сюжэтнага — пару сваю давыд-гарадоцкую ўспамінаючы, Фрэдман стары з цеплынёй найбольшаю пра тое распавядаў, як гэта ён рэстаранчык пад назвай кідкаю «Варшавянка» здабыў, калі ажаніўся з Ханай гаспадарлівай.

Ах, што гэта за рэстаранчык быў! На цэнтральнай вуліцы Касцюшкавай акардэонна дзвярыма парыпваў. А якія абеды ў ім былі! Якія абеды! Парай залатою да столі даставалі! Абеды тыя гладкаплыўныя па 1 зл. ды 10 гр. Хана з усмешкай бальзамінаю падавала...

Аднак вада ў рацэ мяняецца, і жыццё на месцы не стаіць — давялося Боруху Фрэдману «Варшавянку» любую напавер брату Ханінаму ў годзе трыццаць сёмым пакінуць, а самому з Ханай бальзамінаю ў Палесціну выбрацца...

— Так яно тады ўжо склалася,— растлумачыў і ўздыхнуў глыбока-глыбока, напроці мяне ў вінаградніку прахалодным седзячы.

Махалафа пасля курачкі смажанае піва бананавае падала, гутарка нашая сама па сабе змянілася. Фрэдман стары, бананаўкі глынуўшы, мяне па другое-першае распытваць пачаў.

Распытваць пачаў і:

— Ну, а як цяпер Давідгрудэк мой любы пажывае? — настальгікнуў светла.

— А так,— сарамліва выдыхнуў я, — знепадае патроху...

— Брат Ханін знік у вайну... Ад «Варшавянкі» маёй, мусіць, і следу не засталося?

— Чайная там зараз,—успомніў я.

— У мяне на «Варшавянку» ўсе паперы польскія на руках. Як думаеш, зямляча юны, адсуджу я «Варшавянку» сваю, калі спатрэбіцца?

— А вы... што... вяртацца будзеце?

— Я ўжо не. На магіле Ханы застануся. А Махалафа з сям'ёю, можа, й вернецца.

Я паглядзеў на Фрэдмана старога вачыма зялёнымі, малахольнымі.

— Не глядзі на мяне гэтак, зямляча юны, — загадаў Фрэдман стары,— у нас тут неспакойна вельмі. Я за Махалафу баюся.

— А, разумею... сектар Газа... арабскае акружэнне... і ўсё такое, — паспачуваў я.

— Наадварот усё. Арабскае акружэнне якраз і мацуе Ізраіль. А знікне яно, адразу ж вырабіцца тое, што ў былым Саюзе вашым.

— Эйлат суверэнітэт абвесціць! Даліна шаронская таксама! І пустыня Негеў туды ж! — засмяяўся я.

— Не смейся! — пачуў я водпаведзь строгую.— Праедзь ад Кір'ят-Шмоны да Эйлату, якога сам успамянуў, ды Махалафу паслухай. А я пасплю пайду, бо гаварыць стаміўся...

І паехаў я з Махалафаю на кадзілаку яе, каб гэта й папраўдзе ўсё на свае вочы ўбачыць, каб гэта пераканацца геаграфічна ў тым, што й на Ізраіль хутка насунецца раскіднісцтва страшэннае.

І, забягаючы наперад крыху, спытаецеся вы, ці пераканаўся я?

Яшчэ як пераканаўся!

Махалафа — кабетка маладая, дасведчаная, у кадзілаку сваім не маўчала, хутчэй за прадзеда гаварыла. Руль з ручак белых не выпускаючы, паміж Нетаніяй ды Хадэраю пра ўсе дванаццаць кален і пра дванаццаць удзелаў усё расказвала. А калі з Хадэры ды Хайфы паехалі, пра царствы пачала — пра Іудзейскае ды Ізраільскае...

У Хайфе пастаялі, кавы папілі гарачае і, на затоку Хайфскую гледзячы, паветрам галілейскім глыбока задыхалі. І, вядома ж, Махалафа Ісуса Хрыста ўспомніла, часы ягоныя, калі землі ўсе самастойныя былі — і Галілея, і Самарыя, Іудзея таксама і яшчэ нешта, што за вадою іарданскаю ляжала...

У Кір'ят-Шмону, як таго Фрэдману старому хацелася, не паехалі мы. Там Ліван блізка, растлумачыла Махалафа і, кібуцы розныя мінаючы, у Кфар-Нахум кадзілак свой пагнала.

У Кфар-Нахуме пад пальмамі шпацырнулі мы, элегічна па-над вадою генісарэцкаю пахадзілі.

Махалафа пра Галілею распавядала, пра Галілею сённяшнюю, якая ніяк не можа дараваць Іудзеі фанабэрлівай яе выбрыкі колішнія, яе кепікі даўнія. Так, было яно, было: іудзеі з галілейцаў гігікалі, здзекліва зубы вышчэрвалі. І з мовы галілейскай смяяліся, і з адзення, і з усяго астатняга. І па ўсім відаць, што дарма яны тады смяяліся, бо цяпер галілейцы пакрыўджаныя мараць пра рэспубліку Галілею вольную. І не толькі мараць — свабоды патрабуюць, на вуліцы Назарэта выходзяць з лозунгамі антыерусалімскімі!

— Ды што тут асабліва гаварыць пра варажнечу ўкаранелую паміж Іудзеяй ды Галілеяй. Царствы ж розныя,— Махалафа ўдыхнула ветрык свежы, што прылцеў з вышыняў галанскіх.— Тут калатнеча можа выбухнуць у сваім, як кажуць, хляве родным — паміж Галілеяй Верхняю ды Галілеяй Ніжняю.

Нават не верыў я, чуючы такое. Ад хвалявання каменьчыкі базальтавыя ў ваду генісарэцкую падфутбольваць пачаў.

А Махалафа скардзілася, што Галілея Верхняя на беразе самаханіцкім аўтаноміі прагне, сцягі нефалімавы ды асіравы ўздымае, лёдам ермонскім палохае! А Ніжняя на ўсё на гэта моўчкі не глядзіць, з Назарэта на гару Фаворава радамі шчыльнымі выходзіць і гэтыя сцягі здрадніцкія сцягамі завулонавымі пакрывае.

Во як!

З Кфар-Нахума праз Тверыю і Кафр-Кану ў Назарэт паабедаць прыехалі.

— Па абедзе ў Шамрон рызыкнём, — сказала Махалафа ўстрывожана.

І сапраўды пасля абеду смачнага ў Шамрон, нідзе не прыпыняючыся, паехалі.

Дарога яркая паўз дрэвы фігавыя бегла, цяньку шукаючы. А я ўсё слухаў і слухаў, не стамляўся,— пра плямёны ханаанскія слухаў, пра легіёны рымскія і яшчэ пра нешта на саранчу ненаежную падобнае. Апавядаючы, непакоілася Махалафа, каб гэта да ўсяго яшчэ не абвясціліся нашчадкі якія ханаанскія! А то прысунуцца на Ізраіль свой падзел чыніць.

— А калі рымляне прачнуцца?! — і я занепакоіўся.

— О, гэтыя абавязкова сварку паміж іудзеямі скарыстаюць, як ужо было не раз, і зноў Ерусалім захопяць! — усклікнула Махалафа.

Пра туркаў я напамінаць пабаяўся, бо й тыя ж могуць з поўначы наперці. Таго й глядзі — з усімі сваімі саджакамі чатырма на Ізраіль прысвішчуць. Таксама ж маюць права гістарычнае.

Дык гэта значыць везла мяне Махалафа паўз дрэвы фігавыя, страх наганяла, пра Самарыю, Шамрон цяперашні, расказвала. Тлумачыла, што й тут на веніку голым усё трымаецца. Можа, нават болей чым дзе. Самараны ж цяперашнія — распуснікі вядомыя, ад колішніх цароў сваіх распусты набраліся. Пра адасобленасць ды незалежнасць дбаюць, тую самую волю не забываюць, ад якое адно камяні біблейскія засталіся.

Можа, з суткі пажылі мы ў Шамроне вірлівым, у Сабасціі местачковай начавалі, вачэй не стульваючы. І пра ўсё я начуўся тут ад люду мясцовага. Пра ўсё. А найбольш дык вядома ж пра тое, што яны, нашчадкі годныя самаранаў мужных, суверэннае царства Ізраільскае аднавіць хочуць і, натуральна, што сваю сённяшнюю Сабасцію местачковую прагнуць ператварыць у сталіцу прыгожую над назовам пракаветным Самарыя. Ну, гэта як і было некалі (так і сказалі мне) у часы незабыўныя цара-спадара Амурыя цудоўнага... А яшчэ сказалі-пажаліліся, што ў прадкаў іхніх вучэнне самаранскае адбіралі, жыць вольна не давалі, але яны, нашчадкі, добра памятаюць пра ўсе пакуты народа свайго і манускрыпты самарытанскія не забываюць.

На бензаналіўцы, непадалёк ад Шхема-Наблуса, мне з таксістам пагаварыць удалося, пагаварыць па-свойму, па-беларуску. Ён жа ў Гомелі нашым у пару застойную гісторыі сусветнай дзетак навучаў. Дык гамяльчук гэты, дзіва дзіўнае, такім зацятым самаранам удаваць сябе стаў! Жах дый годзе! Кажа: мы, самараны, ад усіх адрозніваемся; мы, самараны, яшчэ цару персідскаму сведчылі пра варожасць сваю да іудзеяў; мы нават у Ліван паўночны лезлі, за сідонцаў выдаючы сябе, каб толькі не быць падобнымі на іудзеяў... І так раскрычаўся самаранін гомельскі, што ледзьве расшчапіліся з ім. І, дзякуй богу, ён некуды ў бок Шуфы пакіраваў, а мы з Махалафай да гары авечай, Гарызімскае паехалі.

Але ж паблізу гары авечае, Гарызімскае тое ж...

Кібуцнік адзін яры, таксама родны мне, бо з Віцебска, ізноў жа на «мы, сараны...» націскаючы, як па пісаным растрыбуніў нам — маўляў, мы тут Хрыста не прынялі, не прывецілі, калі ён да Ерусаліма валокся. І толькі за тое Хрыста не прывецілі, вадой не напаілі, што іудзей ён!

Кібуцнік яры прызнаўся мне, што яшчэ не зусім ён з сябе сацыялізм віцебскі абтрос, але вучэнне новае, самаранскае, у якое толькі што ўнік, ужо не страціць ніколі.

# НОВАЯ СТАРАЯ СПРАВА

**«Белвідэацэнтр» — адзінае на Беларусі прадпрыемства, якое, падхапіўшы найноўшы сусветны кірунак у мастацтве кіно, здымае не для самага масавага гледача. Пакуль, праўда, не буйныя мастацкія палотны, бо ад пачатку стварэння мае на ўвазе вытворчасць стужак дакументальных, навукова-папулярных, рэкламных.**

**— Што ўяўляе сабою цэнтр сёння! — пытанне да вядомага рэжысёра Юрыя ЦВЯТКОВА, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі рэспублікі, які ледзь не ад самага першага года ўзначаліў «Белвідэацэнтр» як мастацкі кіраўнік. — Менавіта сёння, бо калісь, Юрый Мікалаевіч, вы наважылся ладзіць надта неспакойную гаспадарку, што вымагае процьмы грошай, мастакоўскіх высілкаў ды, як ні дзіўна, усвядомленых нацыянальных арыенціраў...**



— Натрапіў я на гаспадарку адметную (гэта здарылася напрыканцы 1989 года). На галерэю помнікаў, напрыклад, тагачасным старшыням калгасаў, альбо таннай малапрафесійнай рэкламы... З тэхнічнага абсталявання я заспеў адну (!) напалову прафесійную кінакамеру ды спісаную студыю тэлебачання. Патрабавалася між тым зусім няшмат: прыдбаць апаратуру і... выпрацаваць канцэпцыю прадпрыемства. Самі разумееце, што набыццё разам з выпрацоўкаю маглі б сур'ёзна запрэтэндаваць на справу паловы майго жыцця... «Белвідэацэнтр» быў створаны па прапанове Міністэрства культуры Беларусі, таму само па сабе зразумела, што галоўным кірункам ягонай дзейнасці магло стацца стварэнне відэафільмаў, якія б, па першым часе, спрыялі б, садзейнічалі адраджэнню нацыянальнай культуры, перадусім, магчыма, беларускай мовы.

**— Зацікавіць гледача тутэйшымі тэмамі — як?! Мярную, пытанню пра характар, кірунак вашай дзейнасці мусіць папярэднічаць больш дакладнае: хто вашыя заказчыкі?**

— У асноўным — Міністэрства культуры ды Міністэрства адукацыі рэспублікі. Гэта не значыць, што мы адмаўляем іншым, — надараецца, выгодным заказчыкам. Свежы прыклад — фільм «Кадыш» (яўрэйская памінальная малітва), зняты па заказе сумеснага прадпрыемства «Канкор», фільм, які апавядае пра знішчэнне мінскага гета падчас акупацыі. Перадусім гэта было знішчэнне носьбітаў культуры, мовы, традыцый, і менавіта на гэта здымачнаю групаю быў зроблены акцэнт. Шмат здымаем для патрэб навучальных установаў, засяроджваемся на праявах мастацтва, на творчасці і асобах беларускіх літаратараў, дзеячаў мастацтва. Маем цыкл «Лепшыя спектаклі і канцэртныя праграмы», які склалі, напрыклад, амаль усе балеты В. Елізар'ева, «Тутэйшыя» Янкі Купалы ў пастаноўцы М. Пінігіна (рэжысёр В. Шавялевіч),«Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева (на мой погляд, фільм рэжысёра А. Мацюшэўскага не дужа ўдаўся з-за недасканалага прадмета экранізацыі, — спектакля). Нашы стужкі паслядоўна натуюць або ўзнаўляюць уражанні ад канцэрта Дзяржаўнага эстраднага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга (рэжысёр В. Цяслюк), ці распавядаюць пра Дзяржаўны хор Беларусі імя Г. Цітовіча (рэжысёр Л. Гедравічус)...

**— Выдае на тое, што ледзь не ў кожным сваім твärэнні «Белвідэацэнтр» трымаецца свайго вызначальнага: прапагандуе, засяроджвае ўвагу, дапамагае зразумець альбо разгледзець з'яву культуры, з'яву мастацтва... Я паўтару сваё пытанне пра нацыянальныя арыенціры: з паняццем «відэа» ў большасці гледачоў атаясамляюцца *бойні, пагоні*, эротыка і да т. п. у замежных пакаванках, але ж не лірычны расповяд пра мясціны, звязаныя з імем Адама Міцкевіча на Беларусі (аўтар — У. Халіп), альбо спроба доследу аднаўлення традыцыйных рамёстваў на Беларусі...**

— Ва ўсім цывілізаваным свеце пачуццё нацыянальнай годнасці, клопат пра захаванне роду, паважлівае стаўленне да звычаяў і традыцый — натуральная ўласцівасць асобы. Бяда, што ў нас на працягу вядомых гадоў гэтую асобу амаль зліквідавалі. І таму змест стужак, — гэта, хутчэй, не столькі сведчанне перакананняў мастакоў, колькі спакойны зварот да аўдыторыі, намаганне мастацкімі сродкамі падтрымаць яе годнасць.

**— Вы можаце пахваліцца, што ўяўляеце аўдыторыю, для якой працуеце?**

— Мы можам арыентавацца на яе паводле заказаў.

**— А чым кіруюцца тыя, хто канчаткова выпускае стужку да гледача? Дарэчы, хто гэта?**

— *Карыстаемся пакуль* адпрацаванаю формай — мастацкім саветам. Туды (не буду хаваць, маімі намаганнямі таксама) ўваходзяць вядомыя беларускія літаратары, рэжысёры (кшталту Вольгі Іпатавай, Адама Мальдзіса, Рыгора Барадуліна, Віктара Шавялевіча). Праўда, ніяк не залучым да сябе каго з мастакоў — мо таму, што наш мастацкі савет працуе, як казалі за колішнім часам, на грамадскіх пачатках?

**— Сярод пералічаных прозвішчаў — тыя, хто, па маіх назіраннях, дапамагае *пісаць* сцэнарыі, здымае і нават здымаецца ў стужках «Белвідэацэнтра». Але ж хто, як не шаноўны спадар Цвяткоў, колькі разоў даводзіў у сваіх інтэрв'ю, што адметнасць, непаўторнасць, адрознасць відэа ад братніх кіно ды тэлебачання вымагае відэаспецыялістаў! (Заўважу таксама, што ў краінах, якія спарадзілі і развілі відэа, ёсць агульная плынь — «аўдыёвізуальнага мастацтва». З усіх спецыяльнасцяў, звязаных з відэа, на Беларусі мне вядомы толькі... відэаінжынеры.**

— Відэа ў традыцыйным разуменні прызначаецца для гледача-індывідуала. З распаўсюджваннем тэхнікі ды асвойтаннем з відэа нашага індывідуала кінастадолы кшталту «Кастрычніка» ці «Партызана» трэба будзе перарабляць... Але здымаць, пацвярджаю ва-

# ПАЧУЦЦІ ПАД ЗАБАРОНАЙ

## «Імперыя пачуццяў» на беларускіх экранах

Усцешна, калі «найважнейшае з усіх мастацтваў» вымагае пільнае ўвагі сродкаў масавай інфармацыі. Горай, калі падставаю гэткай пільнасці робіцца прафесійная непераборлівасць ды жахлівае (а, можа, і знарочыстае!) невуцтва.

Колькі выняткаў з публікацый у прэсе. «Нядаўна па БТ прагучала інфармацыя пра тое, што нейкая камісія зняла з экрана японскі фільм 1976 года «Імперыя пачуццяў» знакамітага рэжысёра Нагіса Осіма як яўна «парнаграфічную» карціну», — так пачала свой артыкул Вольга Мядзведзева ў «Народнай газеце» («Страсці вакол «Імперыі страсці», 21 мая 1992 г.). Далей аўтар прадаўжае: «Аднак у Міністэрстве культуры знайсці «камісію» не ўдалося».

*Аглядальнік* «Рэспублікі» Святлана Герасімава ў сваім матэрыяле «Час — абпаленыя нервы» больш дакладная: «Зараз, праўда, пры Міністэрстве культуры задумалі стварыць экспертны савет з прадстаўнікоў культуры, педагогаў, псіхолагаў. Але, на жаль, разлічваць на яго не варта. Чаму? А дзе гарантыя, што *пад забарону* зноў не будуць трапляць спрэчныя фільмы, такія, напрыклад, як «Імперыя пачуццяў?» (9 чэрвеня 1992 г.).

І, нарэшце, 18 чэрвеня гэтага года газета «Звязда» інфармавала сваіх чытачоў аб тым, што: «Спецыяльная камісія пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь рэкамендавала часова прыпыніць пракат копіі сусветна вядомага японскага фільма «Імперыя пачуццяў» («Карыда кахання») з-за наяўнасці ў ім значнай колькасці «парнаграфічна - натуралістычных» сцэн», іранічна заўважыўшы ў канцы паведамлення, «што няма нічога больш пастаяннага, чым менавіта «часовае».

Ці ж не парадаксальная сітуацыя, у якой апынулася і «нейкая камісія», і фільм «Імперыя пачуццяў», а галоўнае, глядач, які «пазбавіўся» (а ці так гэта?) магчымасці паглядзець тое, «што ў Мінкультуры лічаць парнаграфіяй», а «многія кіназнаўцы-спецыялісты называюць шэдэўрам сусветнага эратычнага кінематографа» («Звязда», 18 чэрвеня)?

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь 12 мая 1992 г. зацвердзіў статус Рэспубліканскай экспертнай камісіі па ацэнцы твораў літаратуры, мастацтва і публіцыстыкі, сродкаў масавай інфармацыі і прадметаў на наяўнасць у іх адзнакаў парнаграфіі, культу гвалту і жорсткасці, а таксама «Часовае палажэнне аб парадку публічнай дэманстрацыі і распаўсюджвання прадукцыі эратычнага зместу і *якая прапагандуе культ гвалту і* жорсткасці» (пісьмо СМ РБ 14 мая, №11/19). (Распрацаваны гэты дакумент рэспубліканскім Міністэрствам культуры ў адпаведнасці з пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 21 студзеня 1992 г.).

Перапрашаю за «казённы штыль», але дакладныя выхадныя дадзеныя дакументаў падаю дзеля таго, каб чытач мог сам ацаніць прафесійную кампетэнтнасць аўтараў памянёных вышэй публікацый, а таксама іх добрасумленнасць у падрыхтоўцы матэрыялаў для друку.

Перада мной пратаколы Рэспубліканскай экспертнай камісіі. Яны сведчаць, што ёю праведзена ўжо пяць пасяджэнняў, на адным з якіх (29 мая) і была разгледжана копія кінаверсіі фільма Нагісы Ошымы «Імперыя пачуццяў» (арыгінальная назва «Карыда кахання»), прадстаўленая незалежнай відэакінастудыяй «Арцель Ф».

У суправаджальным дзесяціхвілінным роліку вядомы кінакрытык К. Разлогаў коратка расказаў пра гісторыю скандальнага з'яўлення фільма японскага рэжысёра на экране, пра рэакцыю міністэрства *культуры Францыі на шакіруючы* матэрыял, закончыўшы сваё прадстаўленне кінакарціны аўтарытэтнай думкай пра стужку Н. Ошымы як пра «шэдэўр сусветнага кінамастацтва».

Усё так. *І тут я цалкам* згодны з думкай і шаноўнага кінакрытыка, і С. Герасімавай, і В. Мядзведзевай, якая расказала чытачам пра «сапраўдны фурор», які выклікаў у 1976 годзе гэты фільм «на пазаконкурсных напалову закрытых праглядах» у Кане. «Сёння ўжо ніхто, акрамя мясцовых пракатчыкаў і кіназнаўцаў, не спрачаецца, што «Карыда кахання» — лепшая эратычная карціна апошніх гадоў», — абвяшчае В. Мядзведзева.

Упэўнены, што, як і мне, так *і шаноўным аўтарам* газетных артыкулаў давялося сутыкнуцца яшчэ з адным фактам: гледачы выходзілі з кіназалы, не дагледзеўшы да канца фільм, шчыра абураліся: «Няўжо гэтая звычайная парнушка — шэдэўр?!» У В. Мядзведзевай на гэта ёсць непарушны адказ: «Ну, не да ўсіх прабіўся. Бывае. Што зробіш: чужая культура і ёсць чужая. Ад гэтага яна, праўда нічога не губляе..Губляе той, хто наглуха закрыты для яе».

А С. Герасімава прастадушна раіць, што да сустрэчы з «другой культурай... трэба было б людзей падрыхтаваць». Са спадарынямі я зусім згодны. Трэба людзей рыхтаваць да ўспрымання іншай «культуры», а не прыніжаць і папракаць у неразвітасці. І лепш гэта рабіць сумленна і кампетэнтна, а не так, як спадарыні...

Па-першае, ніякай іншай, акрамя негатыўнай, рэакцыі ад удумлівага гледача і не трэба было чакаць, бо яму была паказана *толькі копія кінаверсіі* фільма Н. Ошымы «Імперыя пачуццяў» (яна доўжыцца амаль паўтары гадзіны). Грубы перамантаж асобных кадраў і эпізодаў фільма сказіў арыгінальную ідэю рэжысёра, «пасунуўшы» змест фільма ў бок чалавечай фізіялогіі, зглуміўшы філасофска-эстэтычны пласт арыгінала. А гэта, дарэчы, парушэнне аўтарскіх правоў. З гэтай нагоды нават «Звязда» з'едліва *падкрэсліла*: «нехта хацеў дагадзіць густам савецкіх гледачоў».

Па-другое, як і ў Дзяржаўным саюзным пракатным пасведчанні (ад 19 снежня 1991 г. *за № 1818091*), *так і ў Дагаворы* за 23 красавіка 1992 г. на права пракату фільма студыя «Арцель Ф» (дырэктар Буйніцкі А.), атрыманаму ёй ад студыі «Фора-фільм», агавораны тэрміны і ўмовы публічнага паказу копіі кінаверсіі фільма: «...правесці мерапрыемства на тэму «Грані дазволенага ў кіно» з дэманстрацыяй к/ф «Імперыя пачуццяў» у перыяд з 25 красавіка па 10 чэрвеня 1992 г. *на тэрыторыі* г. Мінска», «без права дэманстрацыі ў цэнтральных гарадскіх кінатэатрах».

Гільдыя кінакрытыкаў Саюза кінематаграфістаў Беларусі *на сваім пасяджэнні* 21 лютага 1992 г. таксама вырашыла: «Фільм паказваць. Абмежаванні: спецыялізаваная аўдыторыя (клубны паказ), акрамя людзей маладзей за 18 гадоў, вячэрнія сеансы. Старшыня Гільдыі кінакрытыкаў А. П. Бабкова».

А цяпер паглядзім, як жа студыя «Арцель Ф» выканала ўмовы свайго дагавора. Толькі па афіцыйна ўстаноўленых дадзеных дэманстрацыя «Імперыі пачуццяў» пачалася раней за абумоўлены тэрмін — з 13 красавіка ў ДК МТЗ. Паказваўся гэты, фільм і ў акруговым Доме афіцэраў, у ДК «Уручча», ДК МАЗа, кінатэатрах «Электрон», «Беларусь», «Дружба», «Перамога». Я ўжо не кажу пра сеансы, якія адбыліся ў раёнах і абласцях Беларусі. Прычым дадзенае «мерапрыемства» праводзілася без якіх-небудзь абмежаванняў умоў паказу, якраз так, як раіць у сваім артыкуле С. Герасімава: «...У прынцыпе, даросламу чалавеку можна глядзець усё...» А як жа дзеці? На гэта аглядальнік «Рэспублікі» рэзонна заўважае: «...глядзяць і дзеці, якія ведаюць відэарынак лепей за бацькоў. І тут проста натуральнае пачуццё чалавека, бацькоў, сям'і павінна альбо абмяжоўваць, альбо забараняць, а ў цэлым ахоўваць на ўсялякі выпадак сваё дзіця ад кепскага». Праўда, тут жа аўтар артыкула агаворвае тое, што «ў высокую свядомасць бацькоў» яна пакуль не верыць...

Гэта ж пацвярджае ў сваім артыкуле «Паляванне на «касуху» («Советская Белоруссия», 19 мая 1992 г.) Е. Бондарава, характарызуючы «утверждающийся повсюду в кинематографе» «дикий, по существу безнравственный рынок», які «демонстрирует свое бесстыдство и агрессивность». Прычыны гэтага яна бачыць у «отсутствии какого-либо общественного контроля, индифферентности средств массовой информации к тому, какая «духовная пища» обеспечивает коммерческие интересы». І як вынік: «кинорепертуар перенасыщается кровавым и пошлым зрелищем».

Агульначалавечыя ісціны ляжаць у аснове фільма японскага рэжысёра Нагісы Ошымы «Карыда кахання». І мне вельмі шкада, што ні К. Разлогаў, ні мастацкі кіраўнік студыі «Арцель Ф» А. Карпаў, ні С. Герасімава, ні В. Мядзведзева не падзяліліся з гледачом сваімі глыбокімі ўражаннямі ад твора вялікага майстра, абмежаваўшыся, з аднаго боку, толькі канстатацыяй «японскай ментальнасці і

## Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ



●

Ходзім галоднымі мы
каля хлеба,
Выпіта намі грахоўнасці чаша.
Неба высокае, светлае Неба,
Ты нам даруй за
адступніцтва наша.
Неба высокае,
дар твой забылі —
Мовай чужою мы молімся Богу.
Славячы Госпада веліч і сілу,
Страцілі ў дзень свой
і Вечнасць дарогу.

Неба высокае,
Неба Уладара,
Ты нам даруй,
фарысеям фальшывым.
Тых, хто адрокся
ад Божага дара,
Бог не пачуе,
не зробіць шчаслівым.

●

Не час, не час
пра супакой і вечнасць,
Бог на зямлі
у брудзе і крыві,
Па кодэксах
распялі чалавечнасць.
Ілжэпрарокаў подлых узвялі.
У судны дзень я стану
на калені
І рукі працягну у небакрай,
І закрычу у роспачным маленні:
— О Божа, не даруй,
а пакарай.
Не варта я твайго выратавання,
Бо я жыла з грахамі і віной.
І ад майго труслівага маўчання
Чыніўся здзек над створаным
табой.
Бо ад маіх і страху, і гардыні
Плявалі часта бліжняму у твар,
І дратавалі чыстыя святыні,
І прадавалі душы, як тавар.
Мой прыйдзе час, маліся,
не маліся;
На плошчы, на каленях упаду,
Каб толькі тых,
што Бога адракліся,
Судзілі не па страшнаму суду.

## Расшчапленне

Заціскаю ў кулак сваю кволую волю...
З кім ісці па жыцці, чаму верна
служыць!
Адчуваю ажно да фізічнага болю,
Як ідзе расшчапленне уласнай душы.
І каханне маё, і пяшчоту жанчыны,
Як канём, здратаваў камісаркі уздым.
Дзеля светлага заўтра пакутнай Айчыны,
Я да торбы жабрацкай качуся зусім.
Адчуваю, што ўжо расшчапілася Слова,
Што застаўся пусты і траскучы набор:
Рэвалюцыя, партыя, перабудова,
Дэкларацыя, фракцыя ці дагавор.
Сталініст, дыктатура, платформа,
рэформы,
Дэмакраты, амбіцыі, мітынгі, з'езд,—
Гэта ўсё, што без сутнасці пэўнай
і формы,
Расшчапляе мае прызначэнне і змест.
Ды ўсё роўна да торбы мы коцімся
скопам,
І ў гурце бараноў мне не страшна зусім.
Што з таго, што паказвае пальцам
Еўропа:
— Паглядзіце, там зноў камісаркі
уздым.

●

Усе праблемы — не праблемы,
Бо веру ў Божую пячаць:
Арыштаваныя паэмы
Да часу толькі памаўчаць.

А потым — голас мой знямелы,
Які ўнутрана крычыць,
Прарвецца песняй набалелай
І ў сэрцах іншых загучыць.

І ў край наш Сын распяты прыйдзе
І верне страчаны нам слых,
І стане сорамна за тых,
Хто зневажаў яго і крыўдзіў.

●

Каму за боль яе балела,
За стан яе дзявоча-гнуткі!
Гандлююць імем Русі Белай,
Як нізкапробнай прастытуткай.

Гандлююць розныя хрыстосы,
Гандлююць лідэры ўсіх партый...
Не іх — народ мой ледзь не босы
Увагі і спагады варты.

Не іх! Ён сам вянец тварэння,
Хоць і нямы і без'языкі...
О Бог, пашлі уваскрашэнне,
Калі ты быў ці ёсць Вялікі.

# «Адраджэнне—стратэгічная мэта апазіцыі»

(Пачатак на стар. 5).

**— Выходзіць, што можна было спрыяць нацыянальнаму адраджэнню і ва ўмовах таталітарнай сістэмы?**

— Безумоўна. І хто спрыяў, той і атрымаў. Возьмем для прыкладу Латвію і Літву. Дзве прыбалтыйскія краіны. У 1940-м годзе Латвія была мацнейшай і па эканоміцы, і па войску, і па менталітэце за Літву. Пасля вайны літоўцы, аднак, аказалі больш упартае супраціўленне саветызацыі сваёй краіны, чым латышы, каторыя з'ехалі за мяжу. І зараз латышоў у Латвіі крыху больш паловы насельніцтва...

Літоўцы ўступалі ў партыю не дзеля таго, каб слугаваць Маскве і камуністычнай ідэалогіі, а каб не дапусціць у партыю нелітоўцаў і тым самым заблакіраваць камандаванне з Масквы. У свой час я доўга вагаўся, уступаць ці не ўступаць у партыю, куды мяне настойліва запрашалі. У мяне не было якіхсьці ілюзій наконт таго, што гэта за партыя... Літоўскія сябры мне параілі: калі ты хочаш працаваць на культуру, на адраджэнне сваёй Беларусі, уступай у партыю. І сапраўды, зрабіць удалося шмат: колькі ўратавана ад разбурэння помнікаў, цэркваў, іншых храмаў. З дванаццаці год членства ў партыі дзевяць год я ўзначальваў партарганізацыю рэстаўрацыйных майстэрань. Колькі ні было праверак з ЦК, каб мяне зняць з сакратарства і выкінуць з партыі (асабліва калі я быў у складзе аргкамітэта БНФ), —цэкоўскія кантралёры сутыкаліся з пазіцыяй партарганізацыі, якая дружна выступала ў маю абарону. З цэлай арганізацыяй нельга было нічога зрабіць, і прысланыя цэрберы толькі разводзілі рукамі: ну і нацыяналісты тут сабраліся! Але такіх арганізацый у КПБ былі лічаныя адзінкі...

Беларусы, на маю думку, павінны будуць паставіць помнікі Аляксандру Чарвякову і Цішку Гартнаму, якія рабілі тое ж, што ў Літве пасля вайны рабіў А. Снечкус. Калі б іх не расстралялі ў 30-я гады, не рэпрэсіравалі, дык зараз у нас такіх праблем з культурай не было б, у нас, упэўнены, засталіся б і мова, і гістарычная свядомасць, і нацыянальная адукацыя. Мы мелі б такі самы ўзровень культуры, што ёсць у Летуве, а можа, й большы. Сталінскія рэпрэсіі выкасілі тых людзей, якія, будучы камуністамі, рабілі беларускую справу. На іх месца ў партыю прыйшлі альбо пасланцы з Расіі, альбо тутэйшыя янычары, нашчадкі якіх зараз згрупаваліся ў Савеце Міністраў і займаюць фактычна антыбеларускую пазіцыю.

**— Скажыце, Алег Анатольевіч, якім жа чынам здолелі самаўсвядоміцца беларусамі, загарэцца ідэяй нацыянальнага Адраджэння ў 70-я гады вы і вашыя паплечнікі па апазіцыі, БНФ, «Грамадзе»? Якую ролю сыграла дзеля таго эміграцыя?**

— У тым, што пачалося Адраджэнне, асноўная заслуга ўнутраных сіл. Беларуская эміграцыя ў адрозненне ад літоўскай не магла выступіць ініцыятарам Адраджэння, яна не стварыла такіх моцных цэнтраў і дасюль расколата. Канцэпцыя незалежнасці Беларусі сфарміравалася ў часы Уладзіміра Караткевіча і з яго дапамогай. Сама з'ява Караткевіча для Беларусі — гэта тое самае, што з'ява Сянкевіча для Польшчы альбо Данелайціса для Літвы. Калі ў нацыі ўзнікае такі пісьменнік, гэтая нацыя хутка мае стаць незалежнай. Гэта знак з будучага.

Выспяванню ідэі незалежнасці папярэднічалі аб'ектыўныя зрухі ў грамадстве. Мы атрымалі незалежнасць дзякуючы таму, што ўпершыню за 300 год займелі беларускі горад. Беларуская Народная Рэспубліка загінула, на маю думку, з тае прычыны, што ў 1918 годзе гарады Беларусі яшчэ не былі ўласна беларускімі. Самы «беларускі» горад Віцебск налічваў тады каля 30% беларусаў, а дамінавалі яўрэі, рускія, палякі. Такі ж стан назіраўся ў Вільні, Менску, іншых гарадах. Аднак, пасля апошняй знішчальнай вайны, мы ў другой палове XX стагоддзя нарэшце стварылі беларускія гарады.

**— «Беларускія» па пашпартнай статыстыцы, але не культуры...**

— ...«Беларускія» па генетычным базісе. Гарады ствараліся за кошт вёскі, вяскоўцаў, якія перасяліліся ў іх. Першае пакаленне вяскоўцаў, што асвойвала горад, падверглася татальнай русіфікацыі. Яны рабілі агромністыя высілкі, каб адцурацца ад «дзеравенскай» мовы і звычаяў. Напачатку беларуская культура ў горадзе зведала поўны дэкаданс: 60-я і першая палова 70-х гадоў — пік супроцьбеларускасці ў горадзе. Але затым у вяскоўцаў-гарадчукоў пачалі падрастаць дзеці, якія, атрымаўшы вышэйшую адукацыю і, дзякуючы Караткевічу, дапяўшы да гісторыі, сталі ўспамінаць, тое, што адпрэчылі ад сябе іх бацькі— мову, фальклор, мастацтва... Спрацаваў той псіха-генетычны фактар, што колькі б ты ні імкнуўся быць не самім сабой, кімсьці іншым, — усё адно такім не станеш, і праз пэўны час адторгнутая самасць абавязкова выйдзе на паверхню, замовіць свае правы...

**— Такім чынам, нельга было самаўсвядоміцца без вывучэння і спасціжэння свае гісторыі?**

— Ні ў якім разе. Ці маглі б здабыць незалежнасць літоўцы без гісторыі, хай нават яны яе ў многім прыдумалі?

**— У літоўцаў былі цудоўна захаваны мова і адукацыя...**

— Калі б не было гісторыі, не было б і мовы. Мова сама па сабе нічога не вызначае. Усё вызначае гістарычная свядомасць. Беларускае адраджэнне ў XIX стагоддзі пачалося з таго, што спаланізаваная беларуская шляхта пачала пісаць сваю гісторыю. Адзін з першых беларускіх гісторыкаў—Тэадор Нарбут, які на польскай мове напісаў «Гісторыю народа літоўскага», дзе супрацьпаставіў ліцьвінаў палякам і расейцам. На гэтых ідэях гадоў праз пяцьдзесят выхаваліся Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Алесь Гарун... Мова будзе заставацца мёртвай, пакуль у народа не з'явіцца гістарычная канцэпцыя; не так істотна дзеля пачатку, на якой мове гэтая канцэпцыя будзе прапісвацца. Беларуская канцэпцыя пачала пісацца на польскай мове, многае затым было дапісана на рускай мове, але галоўнае—сутнасць напісанага. Кастусь Тарасаў, напрыклад, выдаў сваю кнігу «Погоня на Грюнвальд» па-руску, але яна выклікала большы эфект, чым некаторыя беларускія публікацыі...

**— Бо па-беларуску мала хто чытае...**

— Мова, на маю думку, вяртаецца толькі тады, калі прыходзіць гістарычнае самаўсведамленне. Натуральна, што шэдэўры літаратуры можна стварыць толькі на роднай мове. Мова-пасрэднік прыдатная толькі да пэўнага часу.

**— Вы, Алег Анатольевіч, зважаеце на генетычны базіс Адраджэння, але ж існавала і сістэма-монстр, паліцэйская дзяржава, што трымала пад каўпаком інтэлігенцыю. Як жа яна, кволая нацыянальная інтэлігенцыя, здолела без дапамогі звонку, сваімі ўнутранымі сіламі дамагчыся прыняцця незалежнасці Беларусі?**

— **Кволая** інтэлігенцыя не здолела б дамагчыся палітычнай незалежнасці дзяржавы. Аднак за Адраджэнне змагалася зусім не эліта, якая цалкам прадалася кіруючай сістэме і зараз ёй служыць, — а дробная шляхта інтэлігенцкая, калі можна так сказаць: мастакі — не сябры Саюза мастакоў, архітэктары без званняў, гісторыкі без ступеняў... У Літве, паўтараю, карціна была адваротнай, там быў адзіны фронт змагання за незалежнасць, разыходжанні існавалі хіба па метадах змагання.

Змены ў БССР сталіся магчымымі таму, што асноўная маса гарадскога насельніцтва, беларускага па паходжанні, **маўкліва падтрымала** незалежнасць і не выступіла супраць пераўтварэнняў. Акрамя таго, нам вельмі дапамагла такая фармальная акалічнасць, як членства ў ААН. Што гэта дапаможа нам здабыць незалежнасць, я падсвядома здагадваўся раней. Калі б не было членства ў ААН, калі б БССР існавала толькі як частка СССР, дык мы са сваёй аслабленай менталынасцю маглі б і не ўзняцца... Расія пасля распаду Саюза магла б тут жа заявіць прэтэнзіі на «Северо-Западный край» як новую правінцыю Расіі. Увогуле, калі б не было БССР, беларусы наўрад ці захаваліся б як нацыя: нас бы Расія асімілявала гэтак жа, як былі асіміляваны беларусы Смаленшчыны. Так што ўсё, што робіцца ў гісторыі народа, не робіцца выпадкова, а мае сваё гістарычнае значэнне.

**— Як жа тады зразумець негатыўную пазіцыю ўрада адносна нацыянальнага адраджэння, яна таксама мае свой сэнс?**

— Цяперашнюю кіруючую сістэму ў Беларусі задавальняе знаходжанне пад пратэктаратам Расіі. Кіруючай большасці поўная незалежнасць не патрэбна, бо пры ёй яна не застанецца пры ўладзе. І дзве дзяржаўныя мовы ім патрэбны дзеля таго, каб не вучыць беларускай мовы, захаваць і надалей сваю неадукаванасць. Бо калі адно толькі справаводства будзе цалкам пераведзена на беларускую мову — з пратэктаратам будзе назаўжды пакончана. Зараз мы маем класічную сітуацыю пратэктарату. Самае галоўнае — колькі гэтая сітуацыя будзе доўжыцца. Усё залежыць ад таго, як пройдзе рэферэндум, і хто прыйдзе да ўлады.

**— На развітанне дазвольце пацікавіцца, як вам працуецца на новым месцы, у будынку са змрочнай гісторыяй, нядобрай славай (былым будынку ЦК КПБ. — Ю. З.). Ці няма псіхалагічнага дыскамфорту?**

— Спачатку дыскамфорт адчуваўся. Першыя два тыдні было вельмі цяжка, бо нядобра ўплывала адмоўнае біяполе.

— ?

— Так. Але потым, калі я пераабсталяваў пакой, павесіў у ім дзяржаўны герб, карціны помнікаў гісторыі і культуры, аздобіў інтэр'ер, — то змянілася і біяполе. (У рабочым пакоі Алега Трусава стаіць прыгожы букет з сухіх кветак, зроблены, па словах уладальніка, адной з лепшых мастачак Польшчы. — **Ю. З.**).

**— Вам падаюць бутэрброды з кавай?**

— Не, харчаванне за свой кошт.

**— Ці маеце целаахоўніка?**

— Ахоўнікі ёсць толькі ў С. Шушкевіча. Хоць пагрозы мне, ва ўсякім разе, бываюць, і на мітынгах, і па тэлефоне рознае кажуць, пагражаюць дачцэ-школьніцы... Непрыемных момантаў хапае. Але няма часу падаваць у суд, больш дзейсны для мяне сродак змагання — прэса, радыё, тэлебачанне. Пасля маіх артыкулаў і фельетонаў мае апаненты і непрыяцелі надоўга замаўкаюць.

**— А не было настальгічных момантаў, думак, каб вярнуцца ў навуку?**

— Не было, таму што з навукі я ніколі не выходзіў, увесь час працую. За час апошняга адпачынку, напрыклад, правёў раскопкі Фары Вітаўта ў Гродне, у гэтым годзе ў сааўтарстве падрыхтаваў дзве манаграфіі. Так што палітыка зусім не перашкаджае мне займацца навукай.

**— Што ж, дзякуй за гутарку і мужнасці вам, Алег Анатольевіч!**

Рыгор БАРАДУЛІН

# КАТАСТРОФЫ

## Авохці мне!

## *Строфы ката*

### Да гаспадыні

І я да болю
Рады застоллю,
Як песні рагочуць
Недзе пад столлю:

Гаспадынька гладка,
Гэта ж наша матка.
Частуй гасцей,
Каб бывалі часцей.

І паўтараю
За гаспадыняю,
Вяду адну з ёй
Такую лінію:
Дай Бог гасця,
А каля гасця і я...

Яно ж і муляр,
Муруючы печы мур,
Як і я,
Асалодліва муркаў:
— Мур-мур.
Печ мая цвярдыня,
На печы
Добрыя рэчы.
Мая заступніца —
Гаспадыня.
У хаце кумна,
У хаце тлумна.
А гаспадыня, дарэчы,
Ганяе мяне й кляне,
Не думаючы,
Што без мяне
Ёй будзе сумна.

### Да кошкі

Кату без кошкі,
Як місцы без лыжкі,
Як сабаку без блошкі,
Як курцу без задышкі —
Невыносна,
І трэба нос
На
Ветры трымаць
І ў сквар і ў люць,
Каб пачуць,
Як патыхае марцам.
Трэба сябе ў мурбе
Падбадзёрыць гарцам
Не першака,
А малака,
Пажадана сырадою.
Марцаваць дык марцаваць —
Гарцаваць лепей
З кошкай рудою,
Бо, як гаспадар прыгаворвае,
Чым рыжэй, тым даражэй.
Марцаваць ільга здорава
І на двары,
І на каптуры,
І за камораю,
А найлепш — на гарышчы.
Хай скразняк у хвастах,
Як салавей у кустах,
Свішча!

У любой эпохі
Адпаведна цёмныя лёхі.
Якая эпошка,
Такая й кошка.

### Да мышкі

Ці розніца тая,
Хто каго акаляе!
Кот вырастае,
А мышка малая.
Не цярплю пацукоў,
Бо вылегчаць з ходу ката.
З сівых вякоў
Мышка — адна любата.
Шустрыя камячкі —
Хвастатыя малюпаткі.
Смачныя ў іх кумпячкі,
Салодкія ў іх лапаткі.
Пакуль недзе ў куце
Скрабецца мышына,
Кот сядзіць сцішана,
Сам у сваіх жа вачах
Расце.
На кожным бяжку
Пілнуе мышку бяда.
А ў ката ў кіпцёрах
Забываецца мышка
І гора, і страх.
Кату
Мышку-сірату
Да слёз шкада.
Кату даспадобы вышкі,
Бо на вышках
У сваіх зацішках
І кошкі, і мышкі.

## *Строфы ката*

### Да пятлі

Каб помніла чалавецтва
І ўранні, і ўвечары,
Што яно ўсяго
Толькі тля,
Для таго
І выдумана пятля.
Асабліва намыленая
Да шыі прыхільная.
Хто каго на каго
І чаго нацкоўвае.
А яна ўсіх прымірае,
Казытліва шэпчучы:
«Прымі, раю!»—
Пятля пяньковая.
Першае слова было,
А пасля —
Пятля.
Хто яе завязаў,
Дабро ці зло!
Хай дойдуць словы
Не толькі да вашых вушэй,
Думнік і недарэка:
Пятля адвеку вышэй
За чалавека.

### Да сякеры

Сякера
Не звыкла вагацца,
Бо ў сякеры
Вера
Паганца.
Сякера ведае меру,
Не адмяраючы сем разоў,
Сячэ толькі раз.
Не розніць ні гузоў, ні тузоў,
Ні рыз, ні рас.
Ёй роўныя ўсе
Дабрадзеі і гады,
Армады і ўрады.
І над кім яе
Кат занясе,
Таго і ўпадабае.
Сякеры не перашкода
Нагода любая.

Над кожным лёс
Немінуча занёс
Сякеру
Вясёлую ад бліскучага
Ашчэру.

### Да плахі

У плахі
Характар цвярды.
Апошнія крыкі,
Як тыя манахі,
Без гуку
На ёй пакідаюць сляды.
Што можа і ўразіць плаху,
Дык гэта сіла размаху,
Калі галава адпадае,
Адчуўшы ўдар.
Плаха цярплівая —
Яна галадае,
Чакае,
Калі згадае
Пра яе гаспадар.
Страхі
Уцякаюць ад плахі.
І толькі адчаю
Спадзеі яна пазычае.
Чым цвярдзей, тым надзейней
Сваха
Дубовая бокам
Сватае з урачоным змрокам.
За што ёй вырак такі
Суровы,
За што пра яе
Галовы
Загадзя думаюць блага,
Не разумее плаха.

КАЗКІ ПЕРАБУДОВЫ

**Калі ў 1986 годзе М. С. Гарбачоў аб'явіў свой намер перабудаваць наша грамадства, людзі задумаліся: «А што мы пабудавалі!» Спрэчкі не сціхаюць і сёння. Камуністы кажуць, што ім не хапіла да канчатковай пабудовы развітога сацыялізму 500 дзён. Мінула куды больш, а робіцца ўсё горш. Адзін гумар. Пара нешта рабіць.**

**Аўтар.**

Вячаслаў ПІЛІПЧЫК

# Лама

Усё пачалося проста і традыцыйна. Пабраўся вучоны кібернетык з дзяўчынай-радыёфізікам. Гісторыя канца сямідзесятых гадоў не выдзеліла б гэты шлюб, каб не адна акалічнасць. Муж і жонка моцна кахалі адзін аднаго, але пастаянна спрачаліся на жыццёвыя і навуковыя тэмы. Высновы іх часта былі процілеглыя і не давалі падстаў прыйсці да згоды. Як сапраўдныя навукоўцы, яны пачалі шукаць выхад. Раіліся з калегамі, знаёмымі. Нарэшце вырашылі: трэба пабудаваць вылічальную машыну, якая па адной праграме будзе ўлічваць усе наяўныя аргументы і выдаваць справядлівае рашэнне. Ідэя захапіла ўсіх. Акрамя мужа і жонкі, хадзілі ў магазін сябры і знаёмыя, прыхоплівалі што лішняе з работы, са сметніка нумарнога завода. Цяпер пры сустрэчы толькі і гаворкі было пра высокачастотныя транзістары, тунельныя дыёды, параметроны, фотарэзістары, платы. Дома, на кухні, паялі, эксперыментавалі, дапасоўвалі вузлы і нарэшце зрабілі тое, што было задумана. Машына атрымалася на славу. Магла яна чытаць і запамінаць усё, пакуль гэта было патрэбна. Калі перайсці на інжынерную тэрміналогію, то машына мела алфавітны ўвод-вывад і пашыраную знешнюю памяць, куды пераводзіла ўсю атрымліваемую інфармацыю. На пісьмова пастаўленыя пытанні прынтар друкаваў адказы на паперы з абазначэннем парадкавага нумара, праграмы і даты. Хацелася, канешне, задаваць пытанні і атрымліваць адказы адразу голасам, але машыне дзеля гэтага прыйшлося б выконваць да дзесяці мільярдаў аперацый у секунду і мець іншую элементную базу. За такую праблему толькі нядаўна ўзяліся японцы. Згадзіліся на тое, што ёсць.

Спачатку назвалі яе Лабыма — лагічная бытавая машына. Жанчынам гэта не падабалася: імя, як у кабылы. Нехта прапанаваў назваць Элка — электронная карова. Таксама не прайшло. Вырашылі ўрэшце назваць проста Ламай — лагічнай машына. Мужчыны трохі ўдасканалілі знешні выгляд. Галаву зрабілі, як у егіпецкай прынцэсы Неферціці,— з вачыма-фотаэлементамі і аздобай-вентылятарам. Уся Лама мела форму жанчыны, якая сядзіць у мяккім крэсле. Працэсар і пашыраная памяць былі змантіраваны пад крэслам, прынтар — ззаду, у апорнай спінцы крэсла.

Калі ўсе нацешыліся знешнім выглядам, Ламу перанеслі з кухні ў залу і пачалі працэс навучання. Спачатку далі прачытаць некалькі граматык, потым — энцыклапедыі, кнігі па гісторыі, эканоміцы, сацыялогіі. За тыдзень Лама перабірала да пяцідзесяці тамоў. Муж і жонка, дарэчы, пакінулі спрачацца і замучыліся, падаючы і адносячы кнігі. Дапамаглі інжынеры з нумарнога завода. Яны зрабілі робата, які ездзіў па пакоі на колцах, браў з паліцы і клаў кнігі Ламе на калені. Тая сама брала іх у рукі і чытала.

Першымі займелі выгаду практычныя суседкі. Яны нанеслі кніг па дамаводстве, кулінарыі, кансерваванні. Дзеля атрымання аптымальных рэцэптаў па ўсіх кулінарных праблемах давялося ўдасканаліць праграму аналізу. Цяпер Лама выкідвала спрэчныя і неверагодныя рэчы, а потым падводзіла вынікі. Лама стала ўсеагульнай любіміцай. У суседзяў з'явіліся новыя выразы: Лама сказала, Лама лічыць, Лама думае. Адначасова з'явіліся і хваробы: У Ламы прабіла дросель стабілізатара, у Ламы сеў транзістар. Ад наведвальнікаў не было адбою. Кожны нёс дадому надрукаваны адказ на сваё пытанне. Калі папера стала дэфіцытам, прыйшлося ўрэзаць інтарэсы суседзяў.

Першы збой атрымаўся, калі суседскі сын-школьнік разбіў чайнік з дарагога сервіза. Маці раскрычалася і патрабавала ўсыпаць. Довады бацькі і сына, што зрабіў ён гэта незнарок, не дзейнічалі. Прыйшлося зрабіць дыпламатычны ход: спытаць Ламу. Тая адказала двума пытаннямі: «Колькі каштуе чайнік з сервіза і адкуль у кватэры ўзяўся школьнік?» Усе доўга спрачаліся. Асалавелага школьніка адправілі спаць, а Ламу жанчыны вырашылі азнаёміць з медыцынскай і сексуальнай літаратурай.

Другі збой арганізаваў былы абсальвэнт Вышэйшай партыйнай школы. Пасля аднаго з выступленняў генеральнага сакратара ён прынёс Кароткі курс гісторыі КПСС. Гэтую кнігу далі прачытаць Ламе і спыталі, як прасіў абсальвэнт, што там няправільнае. Лама праз нейкі час адказала, што ў праграме партыі камуністаў няма маральнай асновы, таму ўсе яе дзеянні маюць негатыўны змест. З-за адсутнасці маралі гэтая партыя змарнавала жыцці каля сарака мільёнаў грамадзян. У барацьбе за абсалютную ўладу камуністы пазбаўлялі жыцця нават сваіх таварышаў. На якіх трыццаць год гэта стала нормай. Хрысціянская царква за семнаццаць вякоў знішчыла толькі семнаццаць мільёнаў ва ўсім свеце. А тут стольکі — за такі кароткі час у адной дзяржаве! Абсальвэнт згадзіўся і даў пачытаць Навейшы курс гісторыі КПСС з крытыкай культу асобы, валюнтарызму, праграмай перабудовы і зноў захацеў уведаць, ці ёсць перспектывы ў камуністаў. Лама, доўга не думаючы, адказала, што ў злачынцаў сярод сумленных людзей ніколі не будзе перспектыў. Чалавек абурыўся: «Дык што, я таксама злачынец? Не, тут нешта вы падстроілі!» Гаспадарам стала ніякавата, вырашылі больш не кранаць палітычных праграм. Але неўзабаве зноў прыйшлося.

Неяк Беларускі народны фронт абвясціў мітынг. Надвор'е было ветранае, інтэлігенты заспрачаліся, ісці ці не ісці. Жанчыны прапанавалі спытаць у Ламы. Тая трохі пашумела і калі ёй дадаткова растлумачылі праграму БНФ, зноў спытала, што дасць мітынг. Ёй адказалі: «Гэта старадаўняя традыцыя, якая дазваляе выпрацаваць патрабаванні людзей да ўрада, пачуць розныя думкі і інтарэсы». Лама параіла выбраць прадстаўнікоў і даць наказ, яны зробяць гэта лепш і хутчэй. Ёй зноў сказалі, што такіх прадстаўнікоў ужо даўно выбралі, але яны не робяць тое, што трэба. Лама ўдакладніла: «У вас дзейнічае Вярхоўны Квазісавет, які не адпавядае інтарэсам людзей. Што з ім рабіць? Англічане, французы і немцы даўно гэта зрабілі, паразганялі каралёў, кайзераў і іх парламенты». Ёй адказалі, што ў нас зрабілі тое самае, але стала яшчэ горш. Як вырашыць праблему без крыві? Тая зноў выдала пытанне: «Хто трымае ўладу ў рэспубліцы сёння?» Ёй прынеслі кучу газет, часопісаў, нават «Правду» «Политический собеседник». Раздабылі тэлефонныя даведнікі ЦК КПБ і Савета Міністраў за апошнія пяць гадоў. Далі пачытаць склад сённяшняга ўрада і Вярхоўнага Савета. Лама прыйшла да высновы, што ва ўрадзе дзейнічаюць адны і тыя ж людзі, называюцца яны толькі інакш. Гэты мадэрнізаваны ЦК КПБ праводзіць ранейшую палітыку з карупцыяй, пакланеннем Маскве і абрабаваннем народа. Трывалыя граніцы з мытняй, сваё войска, прыватная ўласнасць на зямлю, самастойна дзеючы парламент наўрад ці калі будзе. Лама ўпарта рэкамендавала французскі ці ангельскі варыянт перабудовы.

Усе паслухалі яе і панеслі, хаця і са спазненнем, тую інфармацыю на мітынг. Там вырашылі арганізаваць рэферэндум. Цяпер варта задумацца кожнаму, што нас чакае.





Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў; Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Нумар падпісаны ў друк 8.10.92 г. у 18.10.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18068 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12